# КАНТАКТЫ І ДЫЯЛОГІ

ІНФАРМАЦЫЙНА-АНАЛІТЫЧНЫ І КУЛЬТУРАЛАГІЧНЫ БЮЛЕТЭНЬ
Грамадскага аб’яднання “Міжнародная асацыяцыя беларусістаў”
і Грамадскай арганізацыі “Беларускае таварыства дружбы і
культурнай сувязі з замежнымі краінамі”

## ЗМЕСТ



• № 9–10 (45–46) • ВЕРАСЕНЬ-КАСТРЫЧНІК • 1999 • МІНСК • БЕЛАРУСЬ •

Заснавальнікі:
**Грамадскае аб’яднанне “Міжнародная асацыяцыя беларусістаў”,**
**Грамадская арганізацыя “Беларускае таварыства дружбы**
**і культурнай сувязі з замежнымі краінамі”**



Адрас рэдакцыі:
**Рэспубліка Беларусь, 220050, Мінск,**
**вул. Рэвалюцыйная, 15, Камітэт ГА “МАБ”**

Тэлефон: **+375 (017) 220 76 04**
Факс: **+375 (017) 220 93 50**

E-mail:
**mab@lingvo.minsk.by**

Электронны варыянт у InterNet:
**http://www.lingvo.minsk.by**

*На першай старонцы вокладкі —*
**«Францыск Скарына». Малюнак вучаніцы 7-га класа**
**Беларускай школы імя Ф. Скарыны ў Вільнюсе Маргарыты Стральчэні,**
**пераможцы конкурсу. Настаўніца — Леакадзія Мілаш.**

Бюлетэнь выдаецца і высылаецца толькі тым сябрам МАБ, якія ўнеслі складкі.

Памер складак у месяц (з 1998 г.): у Беларусі — **180 тысяч рублёў**,
у краінах СНД — **2 USD**, Цэнтральнай Еўропы — **3 USD**,
Заходняй Еўропы, Азіі, на іншых кантынентах — **5 USD**.

Перыядычнасць выхаду — **1 нумар у месяц**.

Мовы выдання — беларуская і ў перспектыве — англійская, руская.

Паведамленні аб уплаце складак просім дасылаць на адрас рэдакцыі.

Складкі просім пераводзіць аднаму з заснавальнікаў бюлетэня —
**Камітэту ГА «Міжнародная асацыяцыя беларусістаў».**

Банкаўскія рахункі:
**рублёвы — мяняецца;**
**валютны — 3015000005287**
**у Мінскім абласным упраўленні АСБ “Беларусбанк” г. Мінска, код 807.**



*Андрэй Котлярчук (Бранск)*

# ФРАНЦЫСК СКАРЫНА І ХАРВАЦКІЯ ГУМАНІСТЫ (ДА ПАСТАНОЎЦЫ ПЫТАННЯ)

**Андрэй Котлярчук** — кандыдат гістарычных навук, аўтар прац па гісторыі старажытнай гарадской культуры Беларусі і Расіі.Выкладае ў Вышэйшай школе міліцыі ў Бранску (Расія).

Калісьці ў гутарцы з А. Каўкай М. Улашчык адзначыў патрэбу шматразовага прачытання тэкстаў Францыска Скарыны ў кантэксце вывучэння таго асяроддзя, якое вызначыла творчы лёс беларускага асветніка (1). Падкрэслім: асяроддзя, галоўным чынам, замежнага, бо гуманістычныя тэндэнцыі культуры Літвы-Беларусі пачатку XVI ст. яшчэ не перараслі ў выразны рух. Таму дзейнасць Скарыны на бацькаўшчыне “значна апярэдзіла свой час” (2).

Мэта дадзенага артыкула — прасачыць магчымыя сувязі Скарыны са згуртаваным колам харвацкіх (далмацкіх) гуманістаў канца XV – пачатку XVI ст., відавочна адлюстраваныя, на маю думку, у спадчыне беларускага першадрукара. Цікавы ў гэтым сэнсе факт адзначае М. Петравіч. Па яго падліках, “7 дзеячаў далмацкага адраджэння навучаліся ў пачатку XVI ст. у універсітэце Падуі” (3). Як вядома, славянскі Дуброўнік быў у той час часткай Венецыянскай рэспублікі — лідэра Еўропы. А па законах Венецыі забаранялася яе грамадзянам (у т. л. харватам) атрымоўваць вышэйшую адукацыю дзе-небудзь, апрача Падуі (4). У сваю чаргу, сярод карпарацый замежных студэнтаў Падуанскага універсітэта “польская нацыя” займала трэцяе месца (5). У матрыкулы Падуі пачатку XVI ст. упісана некалькі дзесяткаў ліцвінаў. Рэктарам з 5 жніўня 1507 г. з’яўляўся “Андрэй з Польшчы” (6). Такім чынам, у 1512 г. малады беларускі католік, будучы асветнік і першадрукар Францыск Скарына трапіў у моцны асяродак славян-католікаў, найперш харватаў, і, напэўна, устанавіў з некаторымі з іх сяброўскія адносіны.

Сярод іх маглі быць:

1. Стэпан Брадарыч (Steepan Brodarič, каля 1480–17.11.1539), які ў Падуі атрымаў ступень доктара права. У 1518 г. ён стаў канцлерам венгерскага манарха Ласло Шалкая. У 1512 і 1527 г. наведаў Вялікае Княства Літоўскае як удзельнік пасольства венграў да вялікага князя Жыгімонта Старога. Падтрымліваў добрыя сувязі з каталіцкай элітай Польшчы, напрыклад, з Кракаўскім арцыбіскупам Пятром Тамінскім. Менавіта ў Кракаве, у 1527 г., выдадзены яго асноўны твор “De conflictu Hungarorum cum Turcis ad Monach” (7).

2. Вінко Прыбоевіч (Vinko Priboevič, сярэдзіна XV ст. – пасля 1532 г.). Вучыўся ў Кракаўскім і Падуанскім універсітэтах. Доктар тэалогіі. У сваёй пра-

цы “De origine sucessibisque Slavorum” (Аб паходжанні і поспехах славян. Венецыя, 1532) выкарыстаў хронікі ВКЛ. У гэтым творы амаль што ўпершыню прадстаўлена агульная гісторыя славян, вызначаны генезіс і межы рассялення славянскіх этнасаў у Еўропе (8).

3. Іван Барбула (Ivan Barbula, каля 1472 – каля 1526). У Падуі ён уступіў у ордэн дамініканцаў, там жа атрымаў ступень доктара тэалогіі. Паэт-лацініст. Арцыбіскуп Дуброўніка.

4. Марво-Ветранавіч (1482–1576). З купецкай сям’і. У 1507 г. уступіў у ордэн бенедыктынцаў. У 1507–1515 гг. вучыўся ў розных універсітэтах Італіі, у тым ліку Падуанскім. Харвацкі паэт выразнага патрыятычнага напрамку.

5. Ганібал Луцыч (1482–1553). Паэт. Аўтар першага панегірыка на харвацкай мове “Пахвала Дуброўніку”. У яго п’есе “Рабыня” галоўны герой — змагар за свабоду славянства.

Нарэшце, у канцы XV – пачатку XVI ст. у Італіі працавалі два выдатныя харвацкія друкары — А. Палтошыч і Д. Дабрычэвіч.

Трэба прыгадаць таксама іншых харвацкіх дзеячаў — сучаснікаў Скарыны — Марка Маруліча (1450–1524), Скарына не мог не ведаць яго пераклад на харвацкую мову кнігі Біблії “Юдзіф” (1501); Сімона Кажычыча-Бенья (каля 1460–1536), фундатара харвацкага друку, біскупа Мадраса, перакладчыка і выдаўца на роднай мове каталіцкіх літургічных кніг; Іллю Црыевіча (1463–1520), паэта-лацініста, першага з славян, узнагароджанага ў Рыме лаўрамі лаўрэата (захаваўся яго верш “На выбранне сенатам Дуброўніка пасла ў ВКЛ да Жыгімонта Старога”); Дамяна Бенешы (1477–1539), паэта; Шышко Менціча (1457–1527), таксама харвацкага паэта.

На маю думку, паміж Францыскам Скарынам і колам сучасных яму харвацкіх гуманістаў можна ўстанавіць пэўныя аналогіі:

1. Бадай усе яны выхадцы з гарадскога, купецкага патрыцыяту, г. зн. мелі аднолькавае сацыяльнае паходжанне.

2. Усе яны былі католікамі, мелі добрыя кантакты з духоўнай элітай, нават займалі касцельныя пасады. У дачыненні ж да Скарыны — прыгадаем вучобу ў полацкіх бернардзінцаў, выконванне абавязкаў сакратара віленскага біскупа Яна, персанальны патранат з боку вялікага князя “наласкавшего господаря Жикгымонта Казимировича” (10), сувязі, праз шлюб з Маргарытай Адвернік, з каталіцкай элітай Вільні.

3. Сваёй творчасцю Скарына, як і харвацкія гуманісты, прадстаўляў славянскі культурны свет. Гэта было вельмі важна, бо менавіта ў XV – пачатку XVI ст. у Цэнтральнай Еўропе пашыраюцца меркаванні аб славянах як непаўнацэннай групе народаў. На нямецкіх землях мы бачым адкрытую дыскрымінацыю славян: забарону ўжываць іх мову, быць сябрамі гарадскіх суполак і г. д. (11) У такіх умовах дзеячам эліт славянскіх народаў трэба было пераадольваць існуючы адмоўны стэрэатып славян у свядомасці некаторых неславянскіх народаў Еўропы. Не зменшваючы ролю чэхаў і палякаў, падкрэслім, што гэтая ідэя ў XVI ст. найбольш была пашырана сярод харватаў. У сваіх творах харвацкія гісторыкі і

паэты актыўна распрацоўвалі тэзу аб магутным славянскім царстве, указваюць на вялікія абшары славянскага свету ў Еўропе. У гісторыі Далмацыі значнае месца займала прамая сувязь славян з антычнай традыцыяй. Напрыклад, Аляксандр Македонскі, на думку В. Прыбоевіча, быў, безумоўна, славянінам. Невыпадкова раман пра яго (“Александрыя”) карыстаўся вялікай папулярнасцю ў XV–XVIII стст. сярод сербаў, харватаў, беларусаў і іншых славянскіх народаў. Дарэчы, гэты твор добра ведаў Скарына (12).

У прамове да жыхароў роднага Хвара (1525) В. Прыбоевіч залічаў да славян многіх дзеячаў антычнай гісторыі: Арыстоцеля, імператараў Дыяклетыяна, Аўрэлія, Клаўдзія. Такім чынам сцвярджалася вельмі важная думка пра славян як пра аўтахтонаў еўрапейскай класічнай культуры, адных з заснавальнікаў еўрапейскай цывілізацыі. Тое, што гэтая праблема хвалявала харвацкую эліту, сведчыць, напрыклад, рытарычнае пытанне Антуана Вранчыча: “Няўжо мы, далматы, нічога не далі сусветнай гісторыі?” (13).

Асаблівым гонарам славян харвацкія гуманісты лічылі св. Ераніма — аўтара кананічнага перакладу Бібліі на латынь (“Вульгаты”). Цікава, што харвацкія народныя паданні ўказваюць на св. Ераніма як на стваральніка іншай славянскай азбукі — глаголіцы. Гэтыя ўяўленні пранiклі і ў навуку харватаў. Захаваўся трактат М. Маруліча “Супраць тых, хто лічыць св. Ераніма італьянцам”, дзе сцвярджаецца, што гэты святы быў “вянцом славянскай мовы” (14). Адносна ж Скарыны можна прыгадаць, што наш першадрукар лічыў менавіта св. Ераніма пачынальнікам перакладчыцкай працы. Неаднаразова гаворачы аб ім, ён адчуваў сябе нашчадкам гэтага папярэдніка ў перакладзе Святога пісання на родную мову (15). Напрыклад: “А подле их выкладу… Аз теже, недостойный последовник их, нароженый в руском языку, с помощью божиею, яко повинен (!) сый розмножати хвалу Христову и посполитое доброе… на русский язык зуполне” (16). І яшчэ: “Светый пак Ераним… Аз теже, наследуя мужа светого, напред Богу в троици единому ко чти и своему прироженому рускому языку к науце всего доброго поднялся праци тое…” (17).

4. Харвацкіх гуманістаў і Скарыну лучыць патрыятычная адданасць роднай мове. Выкарыстанне ў друку народнай мовы даследчыкі звычайна звязваюць з ідэяй Рэфармацыі, якая выдзелілася ў асобны рух ужо пасля выхаду скарынаўскіх перакладаў Бібліі (1517–1519). На самой жа справе, эпіцэнтрам дыскусіі аб праве існавання літаратуры на народнай мове была ў пачатку XVI ст. каталіцкая Італія. Менавіта ў гарадах Італіі распачаўся рух у падтрымку “вульгарэ”. Сучаснікі Скарыны — Нікола Макіавелі, П’етро Бембо, Анджэло Беолько ў сваіх творах даказвалі неабходнасць і эстэтычныя вартасці літаратур на народных мовах (18).

У такой атмасферы натуральна ўзнікала жаданне працаваць на карысць роднай мовы, якое яскрава выявілася ў творчасці харвацкіх гуманістаў і Францыска Скарыны. Прынамсі, М. Маруліч мэту перакладу на харвацкую мову Бібліі сфармуляваў наступным чынам: “Мусіў я перакласці гэтую Святую кнігу на нашу мову, каб зразумелі яе і тыя, хто не чытае кніжак лацінскіх” (19). У выда-

дзеным на роднай мове біскупам С. Кажычычам-Бенья каталіцкім службоўніку "Місал харвацкі" ўказана, што гэтая кніга надрукавана "na boziu hvalu i hrvackago ezika prosvečene". Простыя аналогіі ў вызначэнні той жа мэты мы бачым у прадмовах Скарыны да яго кніг Бібліі:

"лепшему вразумлению люду християнского и посполитого";

"иные слова, которые суть в Псалтыри неразумныи простым людем, найдуть е на боцех руским языком" (20);

"а то для того, абы братия мои русь, люди посполитые, чтучи могли лепей разумети";

"понеже не толико докторове а люди вченые в них разумеють, но всякий человек простый и посполитый, чтучи их или слухаючи, можеть поразумети, что ест потребно к душному спасению";

"по-рускии выложену для того, абы вси разумели сию книжку";

"с тое причины, иже мя Бог с того языка на свет пустил" (21).

Вядома, што пераклады біблейскіх тэкстаў далмацкія дзеячы рабілі шляхам "харватызацыі" царкоўнаславянскіх і глагалічных варыянтаў, ствараючы штучнае кніжнае кайнэ, у якім злучаліся элементы царкоўнаславянскай мовы і народных дыялектаў (22). Менавіта ў гэтым аспекце большасць сучасных мовазнаўцаў разглядаюць мову выданняў Ф. Скарыны.

5. Для светапогляду як харвацкіх гуманістаў, так і Скарыны характэрны выразныя "уніяцкія" тэндэнцыі. Справа ў тым, што і на паўднёва-славянскіх землях, і ў ВКЛ у той час пераважала талерантнасць, яшчэ амаль не было варожасці паміж славянамі каталіцкага і праваслаўнага веравызнанняў, захоўвалася магчымасць кампрамісу. Рэабілітацыі ідэі адзінства царквы прысвечаны многія творы харвацкіх дзеячаў. Напрыклад, гісторыка Людвіка Црыевіча-Туберона (1459–1527), які лічыў, што спрэчка паміж Усходняй і Заходняй цэрквамі не мае прынцыповай сутнасці. Як вядома, беларускі пераклад Бібліі, зроблены Ф. Скарынай, быў скіраваны да "русінаў" ВКЛ як праваслаўных, так і католікаў. У часы Скарыны яшчэ існавала беларуская касцельная традыцыя. Так, з XV ст. захавалася шэраг каталіцкіх твораў, пісаных кірыліцай па-беларуску, а між імі імша ("Ка ся мша чтет рымскія обычая Матце Божіей") (23). Як вядома, канфесійныя погляды Скарыны вызначаліся пэўнай талерантнасцю. Увогуле ж наш першадрукар нідзе ў прадмовах не выкарыстоўваў тэрміны "каталіцтва" ці "праваслаўе". Выразы накшталт: "мы пак, хрестианы зуполную веру имамы" сталі лейтматывам каментарыяў да кніг Бібліі (24). Напрыклад, беларускі асветнік гэтак вызначае сэнс кнігі "Деяния светых Апостол": "Ту знайдеш о церковной единоте, иже всем с любовию молитеся вкупе" (25). Звяртае ўвагу кампрамісны варыянт афармлення тэксту Бібліі ў перакладзе Скарыны: праваслаўная пагінацыя і каталіцкая храналогія "ад Р. Х."; праваслаўная Пасхалія і каталіцкая структура 10 запаведзей.

Падкрэслім, што пачатак XVI ст. — гэта часы, калі яшчэ не сфарміраваліся ўсе рысы самасвядомасці харвацкага і беларускага этнасаў. Для харвацкіх дзеячаў, як і для Скарыны, характэрны пошук канчатковай этнічнай ідэнтыфікацыі.

Прынамсі, В. Прыбоевіч лічыў сабе і славянінам, і далматам, і ілірыйцам, і харватам. Скарына запісаны ў тагачасных актах як ліцвін, русін, паляк. Толькі з цягам часу, у канцы XVI–XVII ст., у эліты ўзнікае выразная акрэсленасць, адчуванне гонару належаць да свайго народа — харватаў ці ліцвінаў.

6. Як і харвацкія гуманісты, Ф. Скарына быў выдатным лаціністам. Аб гэтым сведчаць яго паспяховая вучоба ў універсітэтах Еўропы, добрае веданне "вульгаты" і антычнай гісторыі. Трэба адзначыць вялікую ролю ў фарміраванні поглядаў Скарыны галоўнага аўтарытэта заходняй філасофіі — Арыстоцеля, якога ў сярэдневякоўі называлі проста "філосаф". На думку беларускага асветніка, разумнасць Арыстоцеля можна параўнаць з мудрасцю Старога запавету, у якім: "Арестотелева божественная (!) и житейская мудрость замкнена ест" (26). Падкрэслім, што ў тэкст кірылічнай Бібліі Скарына ўключаў лацінскія выразы, накшталт "То фео харітас" ("Дзякуй Богу") (27).

7. Венецыя, якая ў пачатку XVI ст. стала прытулкам для харватаў і Скарыны, была на той час адным з найпершых цэнтраў славянскага друку. Менавіта тут у 1506 г. пабачыла свет Чэшская біблія, адзін з узораў перакладу Скарыны. У шматлікіх друкарнях, якія ўяўлялі сабой хутчэй асяродкі інтэлектуалаў, працавала шмат паўднёвых славян, у тым ліку — на патрэбы бюргерства далмацкіх гарадоў. Напрыклад, у друкарні Джорджо Рusконі ў 1512 г. выдаюцца дзве кнігі для харватаў на кірыліцы-баснійцы. Цікава, што гэта, мусіць, першае ў кірылічным друку выданне маленькага фармату (у 1/8 аркуша), які быў зручны для карыстання ў свецкім жыцці гарадскога патрыцыяту. А ў 1520 г. у Венецыі Божыдар Вукавіч выдаў малафарматны "Зборнік для падарожнікаў", аналогіяй якога, у сэнсе мэты і афармлення, стала "Малая падарожная кніжка" Ф. Скарыны (Вільня, 1522) (28). Адным з першых падабенства шрыфту Скарыны з харвацкімі буквіцамі заўважыў Ігнат Дварчанін (29).

На маю думку, трэба шукаць дакументальныя пацвярджэнні сувязей Ф. Скарыны з харвацкімі гуманістамі, з друкарскімі школамі паўднёвых славян. Верагодна натрапіць на ліставанне харватаў з Скарынай. Я лічу, што моцная элітарная культура харватаў аказала ўплыў на матывы, мэты і сутнасць дзейнасці Ф. Скарыны. Потым скарынаўскія традыцыі, сэнс якіх — у стварэнні хрысціянскай літаратуры на зразумелай народу мове, знаходзілі сваіх пераемнікаў у Беларуска-Літоўскім гаспадарстве. На думку А. Мыльнікава, "сам факт творчасці Скарыны трэба разглядаць як адзін з крытэрыяў ўзроўню развіцця славянскага свету" (30).

---

(1) Каўка А. Што чытаў Скарына // История книги, книжного дела и библиографии в Белоруссии. Минск, 1986. С. 132–147.

(2) Скарына і яго эпоха. Мн., 1990. С. 276.

(3) Petrovich M. Croatian Humanists and the wrighting of history in the 15th and 16th century // Slavic review. Colombus (Ohio). 1978. Vol. 37. N 4. P. 630.

(4) Немировский Е. Л. Франциск Скорина: Жизнь и деятельность белорусского просветителя. Минск, 1990. С. 201.

(5) Голенищев-Кутузов И. Н. Итальянское Возрождение и славянские литературы XV–XVI вв. М., 1963. С. 213.
(6) Ягораў Дз. Падуанскі універсітэт у XV–XVI ст. // Чатырохсотлецце беларускага друку (1525–1925). Мн., 1926. С. 23–28.
(7) Laszowski E. Prilog za zivotopis S. Brodariča // Viesnik Zemaljskogo archiva. 1916. S. 303–304.
(8) Gortan V. Sisgorič i Priboevič // Filologija. 1958.
(9) Enciklopedija Jugoslavija. Zagreb, 1980. T. 1. S. 366.
(10) Пасляслоўе да "Деяния Светых Апостол" // Скарына Ф. Творы. Мн., 1990. С. 133. Далей усе прадмовы і пасляслоўі Скарыны да Бібліі цытуюцца па гэтаму выданню (Творы).
(11) Гл.: Ронин В. К. Славяне к западу от Одера и Восточных Альп в XV веке: проблема самосознания // Этническое самосознание славян в XV столетии. М., 1995. С. 132–133.
(12) Творы. С. 23, 47, 69.
(13) Petrovich M. Ibid. P. 636.
(14) Акимова О. А. Этническое и культурное самосознание хорватов в XV веке // Этническое самосознание славян в XV столетии. С. 142.
(15) Звернем увагу на тое, што, у адрозненне ад праваслаўнай традыцыі, гаворачы аб перакладзе Бібліі, Скарына згадвае Ераніма як "святога", а не "блажэннага".
(16) Творы. С. 70.
(17) Тамсама. С. 71. Гл. таксама с. 24, 29, 56.
(18) Гл.: Чиколини Л. С. Культура Италии XVI – I пол. XVII вв. // История Европы. М., 1993. Т. 3. С. 471–472.
(19) Marulič M. Judita. Suzana. Pjesme. Zagreb, 1970. S. 37.
(20) У адрозненне ад іншых кніг Бібліі Псалтыр Скарына надрукаваў на царкоўнаславянскай мове, "не рушачи самое Псалтыри ни в чем".
(21) Творы. С. 18, 37, 46, 73, 78.
(22) Акимова О. А. Этническое и культурное самосознание… С. 138.
(23) Ластоўскі В. Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі. Коўна, 1926. С. 180–182.
(24) Творы. С. 52. Гл. таксама с. 32, 70, 104, 105.
(25) Тамсама. С. 104.
(26) Тамсама. С. 24. Гл. таксама с. 52.
(27) Тамсама. С. 39.
(28) Немировский Е. А. Франциск Скорина… С. 212.
(29) Дварчанін І. С. Францішак Скарына як культурны дзеяч і гуманіст на беларускай ніве. Мн., 1991 (дысертацыя, 1926 г.).
(30) Мыльников А. С. Картина славянского мира: взгляд из Восточной Европы. СПб., 1996. С. 115.

## ФЕСТЫВАЛЬ ГАБРЭЙСКАЙ КНІГІ

10 кастрычніка ў Мінску адкрыўся III фестываль габрэйскай кнігі. У ім прынялі ўдзел беларускія вучоныя і пісьменнікі, госці з Расіі і ЗША. Прысутных вітаў кіраўнік габрэйскіх суполак Беларусі Леанід Левін.

На фестывалі дэманстравалася біблійнае Пяцікніжжа, перакладзенае габрэямі на старажытнабеларускую мову ў часы Ф. Скарыны. Нядаўна яго тэкст быў выдадзены ў Ізраілі з каментарыямі скарыназнаўцам Мошэ Альтбаўэрам.

*Алесь Сімакоў (Гомель)*

# ФРАНЦЫСК СКАРЫНА І АМЕРЫКА

**Алесь Сімакоў** — выканаўчы сакратар Беларуска-індзейскага таварыства, удзельнік некалькіх канферэнцый МАБ.

Сувязь Францыска Скарыны з важнай інфармацыйнай і ідэйнай плынню яго часу — успрыманнем у Еўропе вялікіх геаграфічных адкрыццяў, найперш "адкрыцця" Амерыкі, — да 1990 г. не звяртала на сябе спецыяльнай увагі даследчыкаў (1).

Знаходзячыся на мяжы беларусістыкі і амерыканістыкі, гэтая праблема з'яўляецца, па сутнасці, праблемай першай беларускай інфармацыі пра Амерыку, і яна ўжо ставілася на Захадзе скарыназнаўцамі ў сувязі з адзначанэннем у Нью-Йорку "ўгодкаў пражскага Скарынавага друку": "Што "Амэрыка адкрытая" — доктар Скарына пэўна ж добра ўжо знаў, хоць ніколі ня мог прадчуваць, што нейкае паўтысячы гадоў пазней ягоны якраз партрэт будзе красавацца на рэпрэзэнтацыйнай вуліцы найбольшага места "Новага свету" (з ліста В. Тумаша А. Флароўскаму ад 15.03.1968 з Нью-Йорку ў Прагу (2)). Бібліяграфічны паказальнік "Адкрыццё Скарыны" (1989) засведчыў, што і самога Скарыну неабходна было нанова адкрываць беларусам і свету (3).

Зварот да тэмы "Францыск Скарына і Амерыка" ў пачатку 90-х гг. быў выкліканы ў значнай ступені блізкасцю паміж сабой двух юбілеяў — 500-годдзяў нараджэння беларускага асветніка (1990) і "адкрыцця" Амерыкі (1992).

Падарожжа Калумба і выданне першых усходнеславянскіх кніг параўноўваліся шэрагам аўтараў XX ст. Розныя па сутнасці, маштабу і характару святкавання, абодва юбілеі мелі сусветнае значэнне, прынамсі, разглядаліся як такія міжнароднымі культурнымі цэнтрамі. Наша новая спроба звярнуцца да гэтай праблемы пачынаецца з канстатацыі, што і на сённяшні дзень у тэкстах першадрукара і сведчаннях сучаснікаў пра яго не знойдзены ні прамыя, ні ўскосныя згадкі пра Амерыку і індзейцаў. Паколькі знаходкі новых адпаведных дакументаў малаверагодныя, працягваецца інтэрпрэтацыя "кантэксту" дакументальных публікацый, па якіх можна было б здагадацца аб магчымай рэакцыі Скарыны на адкрыццё і заваяванне Новага Свету праз "мастацкія рэканструкцыі" ў празаічных і паэтычных творах.

Усё свядомае жыццё Ф. Скарыны прайшло ў "паслякалумбаўскую" эпоху. Кароткая сінхраналогія біяграфіі Скарыны і гісторыі Амерыкі ўключае: 1504 г. — Скарына паступае ў Кракаўскі універсітэт, Калумб вяртаецца са сваёй чацвёртай экспедыцыі; 1506 г. — Скарына атрымлівае ступень бакалаўра філасофіі, Калумб памірае ў Вальядалідзе; 1512 г. — Скарына абараняе ў Падуанскім універсітэце вучоную ступень доктара лекарскіх навук, на Кубе ўзнікае першае еўрапейскае пасяленне — Асунсьён; 1517 г. — Скарына друкуе першую кнігу ў Празе, адкрыццё Юкатана; 1519 г. — Скарына заканчвае ў Празе друкаванне Бібліі, Картэс пачынае заваяванне Мексікі; 1520 г. — Скарына ў Вільні, Магелан адкрывае праліў паміж Вогненнай Зямлёй і мацерыком; 1522 г. — Скарына друкуе "Малую падарожную кніжку", іспанцы высаджваюцца ў Нікарагуа;

1525 г. — Скарына выдае “Апостал”, Пісара рыхтуецца да канкісты Перу; 1530 г. — Скарына едзе ў Кёнігсберг, партугальцы пачынаюць планамерную каланізацыю Бразіліі; 1534 ці 1535 гг. — Скарына становіцца каралеўскім садоўнікам у Празе, Ж. Карцье адкрывае заліў св. Лаўрэнція, а канкістадоры Альмагра ўрываюцца на тэрыторыю Чылі.

У тыя ж самыя дзесяцігоддзі, што і Скарына, жылі і дзейнічалі з аднаго боку Ф. Пісара, П. дэ Мендоса, А.-Н. Кабеса дэ Вака, П. дэ Вальдзівія, з другога — Мантэсума II, Атаўальпа, Куаўтэмак, Каўпалікан, Лаўтара. Галоўныя з пералічаных падзей і імён, чыя слава “грымела”, не маглі не быць вядомымі Скарыне. У Скарыніяне найбольш часта згадваюцца Х. Калумб (гл. напр.: М. Шапавалаў, М. Садковіч, А. Петрашкевіч, В. Чамярыцкі і інш. (4)), а таксама А. Веспучы і Ф. Магелан. У савецкі час часта гучалі цытаты з Ф. Энгельса пра тытанаў Адраджэння, ролю геаграфічных адкрыццяў у гісторыі чалавецтва, пра найвялікшы прагрэсіўны пераварот, які мовай і адчуваннямі першадрукара можна было перадаць як “великое перемещение царств, законов, людей и всех на земли и во водах родящихся”.

Сярод дзеячаў еўрапейскай навукі і культуры, што пералічваюцца ў энцыклапедычным даведніку “Францыск Скарына і яго час” (1988) як “знаёмыя і сучаснікі”, “гістарычныя асобы, з жыццём і дзейнасцю якіх быў знаёмы Ф. Скарына”, нямала такіх, хто фігуруе ў ранняй гісторыі еўрапейска-індзейскіх кантактаў (А. Дзюрэр, М. Капернік, Мацей з Мехава, Максім Грэк і інш.).

Першыя звесткі пра Амерыку, якія накопліваюцца ў Еўропе, у т. л. у Кракаве, Падуі, Празе, Кёнігсбергу, досыць марудна пранікаюць у Літву і Масковію. Наколькі названыя краіны адставалі ад Захаду па інфармаванасці і прагрэсіўных ідэях, ілюструе той факт, які прыводзіў З. Ягораў у зборніку “400-лецце беларускага друку” (1926) і паўтарылі пазней іншыя аўтары: хутка пасля адкрыцця Амерыкі ў Балонскім універсітэце вырашылі стварыць аддзяленне для “індыйскіх” (г. зн. індзейскіх) студэнтаў (5). Падобным чынам выказваецца І. Дварчанін у сваёй доктарскай дысертацыі (Прага, 1925–1926): “Вялікія пераварoты”, выкліканыя ў немалой ступені “адкрыццём дарог да Амерыкі і Індыі, паднялі чалавечую думку ў Заходняй Еўропе да самых вяршынь, адкрыўшы перад ёй далёкія гарызонты”. “Калі прыгледзецца да Захаду таго часу, можна бачыць там нешта незвычайнае, асабліва ў параўнанні з Беларуссю” (6).

Памылковыя “індыйскія” стэрэатыпы, перанесеныя на “антыподы”, і няправільныя этнагеаграфічныя ўяўленні яшчэ доўгі час панавалі ў свядомасці беларусаў, асабліва тых, хто не выязджаў на Захад: “За Атлантыкай ляжыць Індыя, і толькі адзінкі здагадваюцца, што гэта — Новы свет. Іншых земляў няма, бо іх ніхто не бачыў” (7).

Індывідуальная інфармацыя Скарыны павінна была складацца з вусных паведамленняў, найперш у навукова-адукацыйных установах, карэспандэнцыі, даступных рукапісаў, друкаваных выданняў. Ступень інфармаванасці магла быць высокай, што вынікае з яго ўзроўню адукацыі, асяроддзя і геаграфіі паездак, але

не большай, чым у асветнікаў заходнеславянскіх народаў, некаторыя з якіх здолелі ўступіць у кантакт з "амерыканскімі" дзеячамі (знаёмства і перапіска Я. Дантышка з Э. Картэсам).

У бібліятэцы Скарыны былі, галоўным чынам, выданні, куды не паспела трапіць інфармацыя пра "адкрытую" ўжо Амерыку. Аўтарам адной з кніг, надрукаванай ў 1493 г. А. Кабергерам — "Сусветнай хронікі", — быў нямецкі гуманіст Г. Шэдэль, таксама, як і Скарына, медык, які вучыўся ў Падуанскім універсітэце.

Сярод друкаваных прац, якія мог бачыць Скарына, найбольш верагоднымі крыніцамі звестак пра Новы Свет былі творы яго настаўніка Яна з Глагова, які чытаў лекцыі Яна Сакрабоска (Джона з Холівуда) (Introductorium Compendiosum in Tractatum Sphaere Materialis. Cracoviae, 1506), Яна са Стобніцы (Introductio in Ptholomei Cosmographiam. Cracoviae, 1512), выданні чэшскага друкара Мікулаша Бакаларжа Штэціны. Апошні таксама вучыўся ў Кракаўскім універсітэце, але значна раней за Скарыну, выдаў, паводле розных версій, "не пазней 1504 г." або ў 1506 г., адну з першых у Еўропе кніг пра Амерыку і індзейцаў — "Твор аб новых землях і аб Новым Свеце, пра які раней мы ніякіх звестак не мелі і нічога не чулі" (8), якая ў энцыклапедыі "Францыск Скарына і яго час" называецца "лістоўкай", "адной з першых чэшскіх друкаваных "газет". Друкары двух народаў наўрад ці маглі сустракацца, але ў момант пачатку выдавецкай дзейнасці Скарыны Мікулаш Бакаларж меў каля 30 назваў выданняў, і асветнік-беларус мог пазнаёміцца з некаторымі з іх.

"Функцыянальная накіраванасць друкаванай прадукцыі Штэціны, прасякнутая разуменнем патрэб культуры славянскіх народаў, шмат у чым нагадвае зыходныя пазіцыі Скарыны", — адзначае А. Мыльнікаў (9). На думку іншага расійскага аўтара, Скарына "не мог не пазнаёміцца" з малітоўнікамі, выдадзенымі кірылаўскім ("баснійскім") шрыфтам Джорджо Русконі ў Венецыі за тры месяцы перад абаронай ім у Падуі доктарскай ступені (1512). У Венецыі, праз якую праязджаў беларус, у 1501 г. Дж. Русконі выдаў кнігу А. Веспучы "Новы Свет" (10).

Пра веды і ацэнкі Скарыны выказваюць меркаванні аўтары мастацкіх рэканструкцый жыцця і дзейнасці першадрукара. М. Арочка ("Судны дзень Скарыны", 1988), пацвярджаючы амаль бясспрэчную верагоднасць таго, што Скарына ведаў пра жорсткую канкісту краін ацтэкаў і інкаў, дапускае, што ён асуджаў прагнасць да скарбаў і золата, лічыў гэта "дзікунствам", "варварствам" і асабліва абураўся выкарыстаннем веры для апраўдання захопу чужых зямель і прыгнёту, прычым у гэтай сувязі разглядаў сябе нібы ахвяру расколатай, як зямны шар, рэлігіі. А. Лойка (раман-эсэ "Францыск Скарына, або Сонца Маладзіковае", 1989) прыпісвае асветніку думку пра тое, што кнігі, якія пачынаюць друкавацца, пойдуць па ўсяму свету, і Старому, і Новаму, які ў той час адкрываецца далёкімі ад Прагі іспанскімі і партугальскімі каравеламі; пры гэтым Скарына лічыць усе гарады на свеце, у т. л. "гарады новаадкрытай Індыі", — сваімі гарадамі, хаця і не спадзяецца іх бачыць.

Большасць мастацкіх твораў моцна перабольшваюць здольнасць Скарыны арыентавацца ў новых перспектывах Еўропы, прадбачыць. Кур'ёзны прыклад забягання наперад — наўмысная памылка наконт бульбы, якую пякуць у прыску падарожнікі ў той час, калі "Калумб толькі што даплывае да ўсходніх берагоў Цэнтральнай Амерыкі" (А. Клышка, "Францыск Скарына, альбо Як да нас прыйшла кніга", 1983). Як "ідэалагічную" памылку можна трактаваць звядзенне разам "бацькі генацыду" індзейцаў "Хрыстаносца" (Хрыстафора) Калумба і аднаго з выдаўцоў "свяшчэнных тэкстаў" пра Хрыста, імем якога тварыліся злачынствы: "плаванне Калумба і выданне Скарынай біблii на зразумелай мове — ёсць два ўдары з смяротных удараў, якія наносіць іхняй [г. зн. абскурантаў, уключаючы езуітаў. — *А. С.*] догме новы Чалавек" (У. Караткевіч. Хрыстос прызямліўся ў Гародні. 1972). Падобныя спрэчныя параўнанні робяцца і за акіянам, напрыклад, у паэме Янкі Юхнаўца "Калюмбы" (Нью-Йорк, 1967). Варта звярнуць увагу на прыродазнаўчыя навуковыя галіны, якія актывізаваліся ў сувязі з геаграфічнымі адкрыццямі. Важны для нашага даследавання перыяд работы Скарыны каралеўскім батанікам-садоўнікам на Градчанах (на думку С. Брагі, ён працягваўся каля пяці гадоў — 1535–1540). Кароль Чэхіі і Венгрыі (з 1526 г.) Фердынанд (1503–1564), заснавальнік сада, быў сынам Філіпа, іспанскага манарха, "уладара" Амерыкі, і яго батанік мог у перспектыве атрымліваць па "іспанскіх" каналах і расліназнаўчую, і іншую важную заакіянскую інфармацыю. "Жаданнем Фердынанда было, каб прыгажосцю ды багаццем рэдкіх дрэваў і раслін яго пражскі сад не саступаў найбольшым і найпрыгажэйшым садам іншых валадароў Еўропы, пра пражскі сад ён не забываўся да канца свайго жыцця. Кароль і ў Вене думаў пра тое, што ды як у Празе трэба садзіць. У сваіх лістах ён прыпамінаў, каб дрэвы цёплых краёў былі добра дагледжаныя на зіму "ды забяспечаныя ад марозаў, паабкручаныя". Першапачаткова Чэшская каралеўская камора ацэньвала працу Скарыны адмоўна. Яе сакратар Фларыян Грыспек (Грысбек) пісаў каралю 27 чэрвеня 1538 г.: "Ня шмат чаго прыгожага можна пабачыць у садзе. Апрача італійскіх пладоў — лімонаў, памаранчаў, цытрынаў ды іншых, — больш няма пра што паведамляць". Але ў прадмове да "Чэшскай касмаграфіі" 1554 г. Ян з Пухава ўжо пісаў пра "вялікі раскошны сад, у якім можна бачыць у вялікім ладзе пасаджаныя розныя шчэпленыя пладовыя дрэвы ды шляхотнае зеліва — і сваё мясцовае, і з далёкіх краёў" (11). Такім чынам, хаця пражскі батанічны сад быў адным з першых у Еўропе, а Скарыну "мы можам лічыць" яго заснавальнікам (Я. Неміроўскі (12)), гэты даследчык удакладняе ролю беларускага асветніка: "…ён быў вучоным садаводам, які вызначаў, якія культуры павінны быць вырашчаны", але "не варта думаць, што Скарына асабіста саджаў расліны, даглядаў за імі", для гэтага ў яго былі спецыяльныя работнікі. Тады яшчэ не прыйшоў час актыўнага вывучэння і выкарыстання культурных ("індзейскіх") і дзікарослых раслін з Амерыкі. Сын Скарыны Сімяон меў ужо больш шанцаў: сярод раслін, якія вырошчвалі ў 1584 г. у Йінжыхавым Градцы яго канкурэнты-расліназнаўцы, называецца фасоля. Першай амерыканскай хатняй жы-

вёлай, якая апынулася ў Еўропе ўжо ў часы Скарыны, была індычка, або калакуцкая курыца, яна з'явілася ў Беларусі не пазней 1573 г. і фігуруе нават у "Статуце Вялікага Княства Літоўскага".

Матэрыяльныя рэаліі амерыканскага жыцця маглі трапіць на гравюры Скарыны, улічваючы, што "рэлігійная тэматыка некаторых з іх секулярызаваная", што вылучаецца група "экзатычны жывёльны і раслінны свет". Гравюра, на якой Скарына адлюстраваны з кнігамі і армілярнай сферай, дае падставу для разважанняў пра касмаграфічныя і агульнагеаграфічныя веды асветніка. "Sphaera mundi" назваў яе ў 1926 г. М. Шчакаціхін (13), а ў 1830 г. І. Снегіроў "глобусам" (14). Выгляд гэтага "прадмета" ўводзіць ў зман: гэта не зямны шар, а "адзін з найстаражытнейшых астранамічных інструментаў" (15). Астранамічныя табліцы Рэгіямантана, якімі карысталіся Калумб, Веспучы і іншыя мараплаўцы, выкарыстаў для сваім мэт і Скарына (прагноз зацьменняў у "Малой падарожнай кніжцы").

У кнігах Старога запавету 1517–1519 гг. Скарына змясціў застаўкі з "дзікімі людзьмі" — матывам, шырока распаўсюджаным на працягу папярэдняга стагоддзя ў заходнееўрапейскай арнаментыцы. "Дзікія людзі", з дубінкамі і зарослыя валасамі, з'яўляюцца дзевяць разоў — у кнігах Ісуса Сірахава, Эклесіясце, Песні песней, Прамудрасці Божай, Царстваў і Зыход, але гэты сюжэт перайшоў у XVI ст., калі пачаліся масавыя кантакты еўрапейцаў з карэннымі жыхарамі Амерыкі, ужо як анахранізм. Абагульненні па магчымай рэакцыі Скарыны на сустрэчу з людзьмі іншых, менш тэхналагічна развітых культур робяць А. Каўка (вуснае паведамленне) і А. Мальдзіс у дакладзе на X Міжнародным з'ездзе славістаў з характарыстычнай назвай "Францыск Скарына як прыхільнік збліжэння і ўзаемаразумення людзей і народаў" (1988). Каменціруецца перш за ўсё факт перакладу Скарынай асноўных хрысціянскіх тэкстаў. Біблія Скарыны, надрукаваная раней за многія пераклады Святога пісання на еўрапейскія мовы, у т. л. пераклад М. Лютэра, не робіць таго "экзатычнага" ўражання, як версіі на мовах кры і аймара, якія бачыў на міжнароднай выставе ў Філадэльфіі ў 1876 г. жыхар Беларусі Я. Карловіч, але выданні Скарыны фігуруюць у тых жа даведніках перакладаў Бібліі на розныя мовы, што і індзейскія. Хаця падыход Скарыны да Бібліі лічыцца гуманістычным, а яго трактоўка тэксту выклікала пярэчанні з розных бакоў, ён, безумоўна, не мог дадаць у яе свае думкі і новыя рэаліі, што адпавядалі б яго часу. Паколькі Біблія не ўлічыла магчымасць вялікіх геаграфічных адкрыццяў і пра індзейцаў у ёй не сказана ні слова, а кожны народ Зямлі павінен быў мець радавод ад аднаго з нашчадкаў Ноя — Сіма, Хама або Яфета, то перакананні Скарыны ў мэтазгоднасці ўзгаднення зместу Бібліі з чалавечым разуменнем і вопытам у прынцыпе не супярэчылі "рацыяналістычнаму" тлумачэнню паходжання індзейцаў, якое было ўведзена ва ўжытак папам рымскім ў 1537 г. — пасля чатырох дзесяцігоддзяў ужываных канкістадорамі і місіянерамі выразаў "двуногія звяры", "бяздушныя стварэнні" і "тварэнні д'ябла", якімі яны "абгрунтоўвалі" сваю злачынную дзейнасць у Амерыцы. Згубленыя дзесяць ізраільскіх плямёнаў далі каментатарам Бібліі,

раннім даследчыкам-амерыканістам і мармонам падставу для распрацоўкі тэорыі яўрэйскага паходжання індзейцаў.

Вядомы розныя сцвярджэнні наконт рэлігійнай прыналежнасці Скарыны: праваслаўны; праваслаўны, які стаў каталікам; каталік; індыферэнтны; лічыцца, што ён не мог быць атэістам. Сінкрэтызм з перажыткамі дахрысціянскіх вераванняў як важны элемент рэлігійнасці беларусаў не ўлічваўся тымі аўтарамі, хто выказваў свае меркаванні адносна веры доктара Скарыны. Пасля выхаду ў свет кніг Скарыны лёгкі знешні пераход з канфесіі ў канфесію стаў тыповым. Значная частка беларускага народа мела ўжо, у т. л. дзякуючы самому Скарыне, зададзенасць у пытаннях адносінаў веравызнанняў. Пры іншым збегу акалічнасцей беларусы далі б вялікую колькасць як каталіцкіх, так і праваслаўных місіянераў у Амерыцы, хаця тэрмін і паняцце экспансіянізму не былі добра знаёмыя або блізкія беларускаму асветніку і, паводле Я. Парэцкага, “утапісту”: “Скарыне ўласцівы антрапалагічны аптымізм, упэўненасць, што альтруістычныя пачаткі павінны пераадолець эгаістычныя як ў чалавеку, так і ў грамадстве” (16). Падобны “утапізм”, характэрны для ранняга Адраджэння, суіснаваў з уяўленнямі пра падзел свету на цывілізаваны і нецывілізаваны і хутка мусіў быць перагледжаны.

Несумненна, Скарына быў чалавекам еўрапейскага кола, ён належаў да “апошніх магікан” “рускай” эпохі існавання беларускага этнасу; ён нёс ужо ў сабе “пераходныя” элементы ў “польскі” перыяд — для большасці шляхты і ў т. зв. “дзікунскі” — для ніжэйшых, уласна беларускіх, слаёў. Вызначальнай рысай гэтай эпохі стала размежаванне ў арыентацыях, прычым руская і польская вялі ў Еўропу, а чыста беларускі шлях развіцця быў натуральны, “карэнны”, індыянісцкі, непісьмовы і “негістарычны”. Выданне Ф. Скарынай дастаткова анахранічных і малапрадуктыўных для нацыянальна-культурнага развіцця біблійных тэкстаў стала адметнай, але “стрымліваючай” падзеяй. Новая эпоха павінна была даць беларускаму народу дакладную інфармацыю пра свет на натуральнай, а не штучнай мове, якую выкарыстаў Скарына; такім чынам, Біблія, з дапамогай якой дэмаралізоўвалі карэнныя народы Амерыкі, у Беларусі служыла сродкам стрымлівання развіцця навук пра свет, уключаючы амерыканістыку.

---

(1) На Другіх Заслаўскіх чытаннях Беларускага навукова-гуманітарнага таварыства (9–10.06.1990) было зроблена паведамленне “Францыск Скарына і Амерыка: падыходы да вызначэння праблемы”.

(2) Фляроўскі А. й Тумаш В. Скарыніяна ў ліставанні. Лісты 1965–1968 гг. // Запісы: Беларускі інстытут навукі й мастацтва. New York, 1988. N 18. С. 186.

(3) Открытие Скорины: Библиографический указатель… / Сост. Г. Я. Голенченко. Минск, 1989.

(4) Шапавалаў М. Ф. Скарына, яго дні ды друк на Беларусі. Мн., 1925 (раздзел 1. Сацыяльна-эканамічны быт Заходняй Эўропы ў канцы XV і пачатку XVI стст.); Садковіч М. Как был написан этот роман: Вместо предисловия // Садкович М., Львов Е. Георгий Скорина: Истор. роман. Минск, 1966. С. 13; Чамярыцкі В. З кагорты тыта-

наў // Падарожная кніжка Скарыны: Зборнік, прысвечаны 500-годдзю беларускага першадрукара. Мн., 1990. С. 10.
(5) Егораў З. Падуанскі універсітэт у XV–XVI сталеццях // 400-лецце беларускага друку. Мн., 1926. С. 25. (Пра адносіны да чужаземцаў там сказана: “Толькі італьянскія універсітэты прымалі іх, пры гэтым, з самага пачатку — на аднолькавых правох; варты адзнакі той цікавы факт, што на вестку аб адкрыцці “Індыі”, г. зн. — Амерыкі, Болёння зараз жа адгукнулася ўтварэннем у сябе асобнае нацыянальнае падгрупы для “індыйскіх студэнтаў”); Майхровіч С. К. Георгій Скарына. Мн., 1966. С. 42–43. (“Дастаткова сказаць, што не паспела яшчэ Еўропу абляцець сенсацыйная вестка аб адкрыцці Калумбам Амерыкі, як у Балонскім універсітэце пачалі ўжо ствараць спецыяльныя секцыі для “індзейскіх”, гэта значыць амерыканскіх, студэнтаў. Факт сам па сабе глыбока знамянальны. Ён кідае яркае святло на дэмакратычную атмасферу, якая здаўна панавала ў тагачасных універсітэтах і мела вялікі ўплыў на станаўленне светапогляду Скарыны”.)
(6) Дварчанін І. С. Францішак Скарына як культурны дзеяч і гуманіст на беларускай ніве. Мн., 1991. С. 62.
(7) Караткевіч У. Подзвіг Францыска Скарыны: Эсэ // Вобраз–86. Мн., 1986. С. 203.
(8) Стингл М. Индейцы без томагавков. М., 1984. Изд. 3, доп. С. 201–203; Кашпар О. Доколумбовые литературы в ЧСФР (Обзор) // Латинская Америка. 1990. № 8. С. 138.
(9) Францыск Скарына і яго час: Энцыкл. даведнік. Мн., 1988. С. 554.
(10) Немировский Е. Л. Франциск Скорина: Жизнь и деятельность белорусского просветителя. Минск, 1990. С. 211, 212.
(11) Цыт. па: Брага С. Доктар Ф. Скарына й кароль Фэрдынанд // Запісы: Беларускі інстытут навукі й мастацтва. New York, 1988. N 18. С. 11–12,17.
(12) Немировский Е. Л. Франциск Скорина. С. 508.
(13) Шчакаціхін М. Гравюры і кніжныя аздобы ў выданнях Францішка Скарыны // 400-лецце беларускага друку. Мн., 1926. С. 180–227.
(14) И. С. [Снегіроў І. М.] Дополнение к статье IX // Труды и летописи Общества истории и древностей российских. М., 1830. Ч. 5. Кн. 1. С. 306–309.
(15) Шматаў В. Набліжэнне да разгадкі?: Семантыка і сімволіка партрэта Францыска Скарыны // Мастацтва Беларусі. 1989. № 6. С. 51.
(16) Порецкий Я. И. Симон Будный — передовой белорусский мыслитель XVI в. Минск, 1961. С. 47.

## САРДЭЧНА ВІНШУЕМ !

Сяброў ***Беларуска-амерыканскага задзіночання*** — з 50-мі угодкамі яго заснавання (адзначалася ў Нью-Йорку 10 кастрычніка)!

Старшыню Каардынацыйнага камітэта беларусаў Канады ***Раісу Жук-Грышкевіч***, вядомага грамадска-культурнага дзеяча, сябра МАБ, з 80-годдзем з дня нараджэння!

Святара, нашага сталага чытача доктара ***Ежага Юзафа Сабковяка*** — з пастырскім пасвячэннем, якое адбылося 17 кастрычніка ў Рутэн-Капергардзе (Германія).

Дацэнта БДУ ***Кузьму Хромчанку***, аўтара прац пра ўзаемадзеянне беларускай літаратуры з іншымі літаратурамі — з 70-годдзем з дня нараджэння !

***Мікалай Палкаўнічэнка (Гомель)***

# ВЫЯВЫ ЧЭШСКАГА ЛЬВА НА ІНІЦЫЯЛАХ ПРАДМОЎ ДА ПРАЖСКІХ ВЫДАННЯЎ Ф. СКАРЫНЫ

**Мікалай Палкаўнічэнка** — выкладчык выяўленчага мастацтва СШ № 19 г. Гомеля. Даследуе сімволіку гравюр з выданняў Ф. Скарыны.

У пасляслоўях да сваіх выданняў Ф. Скарына называе Прагу горадам вялікім і слаўным. Неаднаразова выкарыстаў ён у прадмовах да гэтых выданняў ініцыял П, упрыгожаны выявай чэшскага льва. У сваю чаргу герб Чэхіі стаў складовай часткай гербаў Навамесцкага і Маластранскага раёнаў Прагі. Такім чынам, для беларускага першадрукара леў з'яўляўся сімвалам не толькі Чэхіі, але і Прагі.

Знамянальна, што ў віленскіх выданнях Ф. Скарыны ўказаны ініцыял ужо не выкарыстоўваўся. Больш таго, за выключэннем Псалтыра слова “Предисловие” там знікае, замяняецца словам “Казание”. Таксама характэрна, што ў асноўным тэксце Бібліі Ф. Скарына гэты ініцыял выкарыстаў толькі адзін раз, яўна па “тэхнічнай” неабходнасці. Ім пачынаюцца апошнія ніжнія два або тры радкі тэкста, дзе звычайны, больш буйны, ініцыял не ўмясціўся б у наборную плошчу.

А цяпер вернемся да самой выявы льва. Яна ўпісана ў літару П нібы, у вароты — амаль так жа, як у маластранскім гербе. Прыгадаем, што акрамя ўсяго іншага леў — яшчэ і сімвал вучонага. На верхняй жа папярочцы літары выцягнулася жывёліна, ідэнтыфікаваць якую, на жаль, не ўдалося. Магчыма, гэта львіца, тады перад намі ідэаграма генезіса вучоных. Калі ж гэта пантэра, то яе выява сімвалізавала б дамінуючае становішча Прагі найперш як інтэлектуальнага, культурнага цэнтра (пан — усё, тэра — зямля). А калі перад намі леапард, райскі леў, то ён азначаў бы спрыяльныя ўмовы для вучоных, іх генезіс.

Звернем увагу на тое, што ініцыялам пачынаецца слова “Предисловие” (“Перед словом”). Варта прыгадаць, што “Слово” і “Слава” ў багаслоўі — сінонімы. Такім чынам, Прага нібы ўзвышаецца над усімі слаўнымі гарадамі як інтэлектуальны і культурны асяродак. Да таго ж у слове “Предисловие” першыя чатыры зычныя літары ўтвараюць славутую анаграму П. Р. Д. С. Гэта — чатыры ўзроўні прачытання тэкстаў Бібліі — Пашут, Рэмез, Дэраш і Сод. Ад гэтай анаграмы ўтварылася слова “парадыз” (рай).

Арыгінальна выкарыстаўшы выяву чэшскага льва, пад апекай якога Ф. Скарына працаваў і, магчыма, вучыўся, вялікі палачанін, на маю думку, выказаў сваю, асаблівую прыязнасць і ўдзячнасць сталіцы Чэхіі. Бо прамое выказванне такіх пачуццяў было б у такой кнізе, як пераклад Бібліі, недарэчным.

---

## У НАСТУПНЫМ НУМАРЫ «КАНТАКТАЎ І ДЫЯЛОГАЎ» ЧЫТАЙЦЕ:

*Янка Запруднік.* Развіццё беларусаведных доследаў на Захадзе.

*Аксана Мілашэўская.* Супастаўленне некаторых асаблівасцей мовы прозы Якуба Коласа і Маргарэт Мітчэл.



*У СЯОЦЮ, Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Кітая ў Беларусі*

## ДА 50-ГОДДЗЯ КІТАЙСКАЙ НАРОДНАЙ РЭСПУБЛІКІ: ДЫНАМІЧНАЕ РАЗВІЦЦЁ КІТАЙСКА-БЕЛАРУСКІХ АДНОСІН



Нягледзячы на вялікую геаграфічную адлегласць, паміж Кітаем і Беларуссю існуюць традыцыйныя дружба і супрацоўніцтва — яшчэ ў часы Савецкага Саюза дружалюбныя сувязі нашых краін ужо былі вельмі цеснымі. Кітай з’яўляецца адной з першых краін, якія ўстанавілі дыпламатычныя адносіны з Беларуссю пасля атрымання ёю незалежнасці. Пасля таго, як 20 студзеня 1992 г. паміж КНР і РБ устанавіліся дыпламатычныя адносіны, прайшло больш сямі гадоў. За гэты невялікі па гістарычных мерках перыяд часу было шмат зроблена ў развіцці адносін паміж нашымі краінамі дзякуючы ўзаемным намаганням.

Кітай надае вялікае значэнне развіццю адносін з Беларуссю, разглядае Беларусь, адну з заснавальніц ААН, як важную краіну Еўропы, якая можа і павінна іграць дастойную ролю ў міжнародных справах. Беларусь у сваю чаргу высока ацэньвае прэстыж і ролю Кітая ў свеце. У Кітая і Беларусі ёсць агульнае разуменне па шырокаму колу міжнародных пытанняў, абедзьве краіны аказваць узаемную падтрымку на міжнароднай арэне. У двухбаковых адносінах Кітай і Беларусь маюць добры патэнцыял для развіцця супрацоўніцтва ў розных галінах. Нашы кіраўнікі падтрымліваюць паміж сабой сталыя кантакты. Прэзідэнт РБ А. Р. Лукашэнка ў 1995 і 1997 гг. наведаў Кітай, некалькі беларускіх міністраў таксама адбылі візіты ў нашу краіну. Прэм’ер Лі Пэн (цяпер спікер) КНР наведаў Беларусь у 1995 г. Намеснікі прэм’ера і спікера Кітая таксама пабывалі ў Беларусі. Кантакты на высокіх узроўнях значна садзейнічалі развіццю міждзяржаўных адносін абедзвюх краін. Дасягнутыя на вышэйшым узроўні дамоўленасці і падпісаныя абодвума бакамі пагадненні (іх больш за 30) плённа ажыццяўляліся, ужо створаны неабходныя механізмы для іх рэалізацыі.

Гандлёва-эканамічнае супрацоўніцтва Кітая і Беларусі таксама добра развіваецца, хаця яго патэнцыял яшчэ далёка не вычарпаны. У эканоміцы абедзвюх

краін існуе пэўная ўзаемадапаўняльнасць, у нашым двухбаковым гандлі назіраецца ўзаемны попыт. У Беларусі ёсць больш развітыя базавыя прамысловыя галіны і больш высокая падрыхтаванасць навукова-даследчай сілы. У сваю чаргу Кітай можа паставіць у Беларусь шырокую гаму тавараў сваёй вытворчасці. Эканоміка ў Кітаі расце хутка і ўстойліва, і на гэтай аснове знешнеэканамічнае супрацоўніцтва таксама няўхільна развіваецца, таму беларускія тавары, калі толькі яны канкурэнтназдольныя па цэнах і па якасці, заўсёды могуць знайсці рынак у Кітаі. У знешнеэканамічным гандлі Кітай у цэлым вось ужо некалькі гадоў запар мае пазітыўнае сальда, аднак у кітайска-беларускім гандлі ў Кітая ўжо не адзін год адмоўнае сальда, і ўсё ж нас гэта не дужа трывожыць. Я ўпэўнена, што калі Беларусь выйдзе з цяперашняга эканамічнага крызісу, палепшыцца сітуацыя з плацёжаздольнасцю і канвертацыяй, гандлёва-эканамічнае супрацоўніцтва нашых краін абавязкова ўзнімецца на новы ўзровень.

Супрацоўніцтва ў галіне навукі і тэхнікі можна лічыць адным з найбольш важных дасягненняў у нашых адносінах. Цяпер толькі па міжурадавай лініі дзейнічаюць звыш 400 праектаў супрацоўніцтва, сярод якіх некалькі дзесяткаў ужо рэалізаваны або рэалізуюцца. У мінулым годзе былі праведзены Дні навукі і тэхнікі Кітая ў Беларусі, а сёлета ў чэрвені Беларусь паспяхова правяла Дні навукі і тэхнікі ў Кітаі, у час якіх абодва бакі дамовіліся пра супрацоўніцтва ў ажыццяўленні яшчэ больш двух дзесяткаў праектаў. Думаю, што для супрацоўніцтва ў гэтай вобласці ў нас ёсць самыя вялікія перспектывы.

Паміж нашымі дзяржавамі было падпісана пагадненне пра культурнае супрацоўніцтва, якое мае доўгі тэрмін дзеяння. Яно паспяхова рэалізуецца. Згодна з пагадненнем абодва бакі складаюць канкрэтныя планы супрацоўніцтва. Напрыклад, у 1998 г. быў падпісаны пратакол на 1998–2000 гг., згодна з якім у чэрвені г. г. у Кітаі з вялікім поспехам прайшлі Дні культуры Беларусі, а ў 2000 г. пройдуць Дні культуры Кітая ў Беларусі. Акрамя таго, адбудзецца і ўзаемны абмен музычнымі, танцавальнымі, балетнымі калектывамі. У кастрычніку ўпершыню пройдуць у Беларусі гастролі трупы Пекінскай оперы з нагоды 50-годдзя ўтварэння КНР.

Вельмі хутка развіваецца супрацоўніцтва ў галіне адукацыі. Згодна з міжурадавым пагадненнем кожны год нашы краіны абменьваюцца дзесяццю студэнтамі. Апрача таго, цяпер у Беларусі вучыцца яшчэ некалькі сот кітайскіх студэнтаў паводле дамоваў, прытым іх колькасць павялічваецца з кожным годам.

Пашыраюцца таксама кантакты паміж грамадскімі арганізацыямі і рэгіёнамі абедзвюх краін. У нас ужо ёсць сем пар гарадоў (або абласцей)-пабрацімаў, яшчэ некалькі гарадоў збіраюцца ўстанавіць такія адносіны. Дзейнасць таварыстваў дружбы абедзвюх краін з'яўляецца адной з самых дынамічных сфер супрацоўніцтва. Адразу ж пасля ўстанаўлення дыпламатычных адносін у 1992 г. было створана Таварыства кітайска-беларускай дружбы ў складзе Кітайскага народнага таварыства дружбы з заграніцай. У тым жа годзе яно накіравала дэлегацыю ў Беларусь для ўстанаўлення прамых кантактаў з Беларускім таварыствам дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі. У 1994–1997 гг. імі

былі арганізаваны візіты ў Беларусь групы мэраў, гандлёва-эканамічнай групы і групы прадпрымальнікаў. У маі бягучага года дэлегацыя Беларускага таварыства дружбы на чале са спадарыняй Івановай упершыню наведала Кітай, пабывала ў Пекіне, Шанхаі і Сучжоў. У час візіту абодва бакі дамовіліся аб супрацоўніцтве ў правядзенні шэрагу мерапрыемстваў. У тым ліку запланаваны ў 2000 г. візіт у адказ кітайскай дэлегацыі. Беларускае таварыства дружбы і Беларуска-кітайскае таварыства дружбы штогодна праводзяць мерапрыемствы з нагоды юбілейных дат і буйных падзей у жыцці кітайскага народа, рэгулярна арганізуюць лекцыі, сімпозіумы, выстаўкі з кітайскай тэматыкай, што істотна садзейнічае дружбе і ўзаемаразуменню нашых народаў. Устаноўлены таксама кантакты па лініі жаночых арганізацый. У чэрвені бягучага года дэлегацыя Усекітайскай федэрацыі жанчын нанесла першы візіт у Беларусь, устанавіла непасрэдныя кантакты з Беларускім саюзам жанчын, узгадніла планы далейшага супрацоўніцтва.

Я пераканана, што амаль ва ўсіх галінах нашых двухбаковых адносін ёсць яшчэ нямала патэнцыяльных магчымасцей для развіцця і паглыблення ўзаемавыгаднага супрацоўніцтва. Я з аптымізмам гляджу на будучае развіццё адносін паміж нашымі краінамі.

*Анатоль Бабіцкі (Мінск)*

## ЛАТЫШЫ ЗНАЁМЯЦЦА З БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРАЙ

З 3 па 11 ліпеня 1999 г. у Рызе па ініцыятыве беларускай дыяспары Латвіі, пры падтрымцы Пасольства Рэспублікі Беларусь у Латвійскай Рэспубліцы прайшлі Дні культуры, майстэрства і традыцый беларускага народа, у якіх прынялі ўдзел майстры народнай творчасці па ткацтву, пляценню беларускіх паясоў, пляценню са стружкі-габлюшкі, вырабу беларускай нацыянальнай вопраткі Лепельскага раённага Дома рамёстваў, майстры па саломапляценню з Мінска А. і Г. Грэсі.

Урачыстае адкрыццё Дзён культуры адбылося 3 ліпеня ў Залатой зале Дома Латышскага таварыства і было прымеркавана да Дня нацыянальнай незалежнасці Рэспублікі Беларусь. Ва ўрачыстасцях прынялі ўдзел пасол нашай рэспублікі ў Латвіі М. Марыніч, старшыня Таварыства беларускай мовы “Прамень” М. Буры, дырэктар Цэнтра нацыянальнага аддзення “Sena Klets” М. Грасманэ, прадстаўнікі іншых нацыянальна-культурных аб’яднанняў, якія адзначалі, што гэтыя Дні ўяўляюць сабой яшчэ адзін станоўчы аспект у развіцці адносін паміж нашымі краінамі. На ўрачыстым адкрыцці Дзён культуры Таварыству беларускай мовы “Прамень” ад Міністэрства культуры Беларусі быў перададзены ткацкі станок і жаночы нацыянальны касцюм ручнога вырабу.

У рамках Дзён культуры прайшла выстаўка “Майстэрства і традыцыі беларускага народа”, народнае свята Купалле, семінар “Фальклор, абрады і традыцыі беларускага народа”.

Заключныя мерапрыемствы Дзён культуры адбыліся 10 ліпеня ў прыродным парку “Стабурагс” у Сеце Айзкраўкльскага раёна, дзе прайшлі выстаўка і майстар-класы беларускіх і латышскіх народных майстроў, канцэрт творчых самадзейных калектываў нацыянальных аб’яднанняў Латвіі.

Трэба адзначыць, што вялікую дапамогу ў арганізацыі і правядзенні Дзён культуры аказала Пасольства Рэспублікі Беларусь у Латвійскай Рэспубліцы, асабліва сакратар пасольства А. Царкоўскі.

Аб правядзенні мерапрыемстваў Дзён культуры паведамлялася на Латвійскім радыё і тэлебачанні, выйшаў спецыяльны святочны нумар газеты беларусаў Латвіі “Прамень”.




3 ліпеня адбылася яшчэ адна значная падзея ў культурным жыцці беларусаў Латвіі — адкрыццё ў Даўгаўпілсе Цэнтра беларускай культуры, дзе беларускаму таварыству “Уздым” былі перададзены 12 нацыянальных сцэнічных касцюмаў для жаночага вакальнага ансамбля “Купалінка”.

У час правядзення азначаных мерапрыемстваў, 30 чэрвеня 1999 г., Пасол Рэспублікі Беларусь М. Марыніч сустрэўся з міністрам культуры Латвійскай Рэспублікі К. Петэрсонэ. Былі абмеркаваны пытанні развіцця беларуска-латвійскіх адносін у галіне культуры, перспектывы падпісання міжведамаснага пагаднення аб супрацоўніцтве паміж міністэрствамі культуры Рэспублікі Беларусь і Латвійскай Рэспублікі.

М. Марыніч праінфармаваў латвійскі бок аб супрацоўніцтве Рэспублікі Беларусь у галіне культуры з суседнімі краінамі, існуючым заканадаўстве ў гэтай сферы, ходзе падрыхтоўкі і правядзення ў Латвіі Дзён культуры, майстэрства і традыцый беларускага народа, удзеле ў іх дэлегацыі Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь. К. Петэрсонэ выказала задавальненне падыходам беларускага боку да развіцця кантактаў у галіне культуры між дзвюма рэспублікамі і падкрэсліла, што Міністэрства культуры аказвае дапамогу латвійскім калектывам, якія прымаюць удзел у фестывалях і конкурсах, што праводзяцца ў Беларусі.

Пры абмеркаванні магчымасці падпісання пагаднення аб супрацоўніцтве ў галіне культуры паміж нашымі міністэрствамі К. Петэрсонэ паведаміла, што Кабінет Міністраў Латвійскай Рэспублікі ўхваліў рапрацоўку падпісання праекта міжведамаснага пагаднення і прапанаваў падпісаць яго ў час плануемага візіта прэм’ер-міністра Латвіі У. Крыштопанса ў Рэспубліку Беларусь у гэтым годзе.

***На здымку**: Удзельнікі дзён беларускай культуры ў Рызе*

*Віта Гірчанка (Палтава), Антон Шчагельскі (Ужгарад)*

## ПОСПЕХ БЕЛАРУСКАЙ ПАЭТЭСЫ-ПАЛТАЎЧАНКІ

У Беларусі яе ведаюць як Іну Снарскую, аўтара двух паэтычных зборнікаў. На Украіне, у Палтаве, як Іну Дзідык (па мужу), актыўную дзяячку беларускай дыяспары. Яна друкуецца ва ўкраінскай прэсе, вывучае ўкраінскую мову на філфаку Палтаўскага педінстытута.

А нядаўна па сцэнарыю Іны Дзідык палтаўскай тэлестудыяй быў зняты аўтабіяграфічны фільм “Простая і светлая таямніца”. У цітрах яго сказана: “Білорусам України присвячується”. У чэрвені гэтага года ён паказаны на першым Міжнародным фестывалі тэлевізійных і радыёпраграм для нацыянальных меншасцей “Мой родны край”, які праходзіў пад патранатам Прэзідэнта Украіны. У ім бралі ўдзел аўтары з Украіны, Венгрыі, Румыніі, Польшчы, Літвы і Славакіі (шкада, што Беларусі не было). На суд калегаў і кампетэнтнага міжнароднага журы былі прадстаўлены 46 тэлевізійных і 36 радыёпраграм. Канкурэнцыя была вялікая. І ўсё ж сапраўдным адкрыццём для нас стала праграма палтаўскай тэлежурналісткі і беларускай паэтэсы Іны Дзідык (Снарскай). Усе 19 хвілін, якія працягваўся яе паказ, прайшлі як адна хвіліна. У зале панавала выключная цішыня. А пасля раздаліся апладысменты. Адзін з членаў журы сказаў: “Гэта нават не журналістыка, гэта пісьменніцтва на тэлебачанні”. Фільм атрымаў найвышэйшы бал у намінацыі “Найлепшая аўтарская работа”.



Пра што ж гаворыцца ў “Простай і светлай таямніцы”? Гэта — роздум жанчыны, адарванай ад сваёй гістарычнай радзімы, ад Полаччыны, якая працягвае любіць сваю родную Беларусь, зберагае сямейныя рэліквіі, што дасталіся ёй ад бабулі і цяпер служаць талісманамі, жанчыны, што здолела палюбіць і новую бацькаўшчыну, Украіну, дзе ў яе сям’я і многа сяброў. Размова пра запаветнае, патаемнае вядзецца на дзвюх мовах — беларускай і ўкраінскай.

Дзесяць тэлекампаній Украіны ўжо заказалі фільм Іны Дзідык для паказу ў сваіх абласцях. Дэманстраваўся ён і на традыцыйнай дэкадзе Палтаўскага тэлебачання, якая прайшла ў Севастопалі 8–17 ліпеня.

Іна Снарская-Дзідык улятае ў трэцяе тысячагоддзе птушкаю. Бо мае ў сэрцы тое, што не памірае.

*Людміла Хмяльніцкая (Віцебск)*

# ШАГАЛАЎСКІЯ ДНІ Ў ВІЦЕБСКУ

5–7 ліпеня 1999 г. у Віцебску прайшлі IX Міжнародныя Шагалаўскія дні, якія ўвабралі ў сябе мерапрыемствы розных жанраў — ад акадэмічных Шагалаўскіх чытанняў да дзіцячага пленэра і сяброўскай вечарыны пад назвай “У гасцях у Марка і Бэлы”, наладжанай у двары Дома-музея Шагала на Пакроўскай вуліцы. Асноўнай падзеяй Шагалаўскіх дзён стала адкрыццё выстаўкі “Марк Шагал і яўрэйская культура”, на якой былі прадстаўлены новыя падарункі, зробленыя віцебскаму музею яго даўнімі сябрамі: серыя графічных ілюстрацый Шагала да Бібліі (1956 і 1960 гг.), каляровыя літаграфіі з серыі “12 кален Ізраіля” (1964 г.), цыкл з 96 ілюстрацый да паэмы М. Гогаля “Мёртвыя душы” (1923–1925 гг.), афорт “Бабуля з Лёзна” (1922 г.) і інш. працы мастака. На адкрыцці выстаўкі прысутнічалі і самі ахвярадаўцы — унучка Марка Шагала Мерэт Меер-Грабер (Берн, Швейцарыя), уладальнік галерэі графікі Шагала Гюнтэр Камацкі з жонкай (Майлен, Швейцарыя), а таксама доктар Генрых Мандэль (Ірэль, Германія).

Шагалаўская імпрэза выклікала вялікую цікавасць і ў замежных беларусістаў. Моніка Банькоўскі-Цюліг (Цюрых, Швейцарыя) і Лена Глагоўская (Гданьск, Польшча) разам з журналісткай Польскага радыё Ганнай Сабэцкай прыехалі ў Віцебск менавіта на яе.

Дачыненні Марка Шагала з яўрэйскай культурай увогуле і яўрэйскай культурай Беларусі ў прыватнасці былі асноўнай тэмай выступленняў на Шагалаўскіх чытаннях–99. Пачаліся яны дакладам старшыні Шагалаўскага камітэта ў Віцебску паэта Давіда Сімановіча пад назвай “Марк Шагал: “Я пра цябе, народ мой…”. Пра ролю яўрэяў у рускім авангардзе і пошукі яўрэйскага мастацтва ў рэвалюцыйнай Расіі расказалі мастацтвазнаўцы Аляксандра Шацкіх (Масква, Расія) і Моніка Бохм-Дучан (Лондан, Вялікабрытанія). Тэме няпростых адносін Шагала да яўрэйскага мастацтва ў розныя перыяды жыцця мастака было прысвечана выступленне аспіранткі Вышэйшай школы сацыяльных навук у Парыжы Клер Ле Фоль. Спробу разгледзець творчасць Шагала ў кантэксце мастацкай традыцыі Беларусі канца XIX – пачатку XX стст. зрабіла мастацтвазнаўца з Віцебска Людміла Вакар. Яшчэ дзве віцебскія даследчыцы — навуковы супрацоўнік абласнога краязнаўчага музея Іна Холадава і дырэктар Цэнтра сучаснага мастацтва Валянціна Кірылава — расказалі пра перапіску Шагала з Аляксандрам Ромам, а таксама дзейнасць мастака на пасадзе кіраўніка Віцебскага народнага мастацкага вучылішча, што было заснавана майстрам роўна 80 гадоў назад. Асаблівую цікавасць прысутных выклікалі даклады вядомага беларусіста Гая Пікарды (Лондан, Вялікабрытанія) “Іудзейска-хрысціянская сімволіка ў беларускім мастацтве ад Скарыны да Шагала”, а таксама перакладчыка і куратара выставак сучаснага мастацтва Іллі Заурава (Франкфурт, Германія) “Традыцыі вобразнай свядомасці Марка Шагала ў сучаснай візуальнай культуры”. Разгляду асобных аспектаў аўтабіяграфічных кніг Марка Шагала “Маё жыццё” і яго жонкі Бэлы Шагал “Запаленыя агні” былі прысвечаны выступленні доктара Ген-

рыха Мандэля з Германіі і мастацтвазнаўцы Наталлі Апчынскай (Масква, Расія). Суполку беларускіх даследчыкаў іудаікі на чытаннях прадстаўлялі прафесар Эмануіл Іофе (з тэмай "Яўрэі Віцебска ў 1880–1920-х гадах"), дырэктар Нацыянальнага музея гісторыі і культуры Беларусі Захар Шыбека ("Асяродак яўрэйскіх рамеснікаў Віцебска ў канцы XIX – пачатку XX стагоддзяў"), а таксама вядучы навуковы супрацоўнік Віцебскага абласнога краязнаўчага музея Віктар Голасаў ("Кідуш і бытаванне рытуальных шклянак на тэрыторыі Беларусі"). Пра знаходкі новых архіўных дакументаў, якія тычацца гісторыі сям'і Шагала, а таксама пра праблемы і перспектывы далейшага развіцця музея расказалі ў сваіх выступленнях супрацоўнікі музея Марка Шагала.

Матэрыялы IX Міжнародных Шагалаўскіх чытанняў музей плануе выдаць у Берне пры дапамозе ўнучкі мастака Мерэт Меер-Грабер.



*Сябры Таварыства "Беларусь – Бельгія" на чале са сваім старшынёй Тамарай Антановіч (трэцяя справа) сустракаюцца з брусельскімі беларусамі ў кітайскім рэстаранчыку*

*Фота* ***Лаўрэна Клыбіка*** *(Брусель)*



*Студэнта з Японіі Хіро Ішэмацу, які вучыцца ў Англіі, прывяла ў Беларусь, у Цэнтр імя Ф. Скарыны, цікавасць да спадчыны беларуса Іосіфа Гашкевіча, першага консула Расіі ў Японіі. Разам з ім была студэнтка-беларуска з Манчэстэра Надзея Лісоўская*

*Фота* ***Хіро Ішэмацу*** *(Манчэстэр)*



# СТАРОНКІ БУДУЧАГА ЭНЦЫКЛАПЕДЫЧНАГА ДАВЕДНІКА

## ГАРЭЦКІ УСЯСЛАЎ



***Гарэцкі Усяслаў Гаўрылавіч*** *(5.06.1924, Масква), філолаг, педагог, член-карэспандэнт Расійскай акадэміі адукацыі, доктар педагагічных навук (1987), прафесар (1988), беларускі грамадскі дзеяч.*

У. Гарэцкі нарадзіўся ў сям'і вядомага беларускага дзеяча і вучонага Гаўрылы Гарэцкага. У 1941–1942 гг. працаваў станочнікам на заводзе № 74 г. Іжэўска (Удмурцкая АССР), з 1942 да 1945 г. — на Маскоўскім аўтамабільным заводзе. Быў курсантам вайсковага пяхотнага вучылішча ў Сарапуле. Працаваў настаўнікам Белавусаўскай сярэдняй школы ў Калужскай вобласці (1947–1954). У 1951 г. закончыў філалагічны факультэт Маскоўскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута імя У. І. Леніна. Быў выкладчыкам Маскоўскага бібліятэчнага інстытута (1954–1958). Вучыўся ў аспірантуры Маскоўскага гарадскога педагагічнага інстытута. На працягу 10 год (1958–1968) педагагічная дзейнасць У. Гарэцкага была звязана з Маскоўскім дзяржаўным педагагічным інстытутам, дзе ён быў асістэнтам, старшым выкладчыкам, дацэнтам. Да 1976 г. выконваў абавязкі загадчыка сектара пачатковага навучання Навукова-даследчага інстытута школ, да 1980 г. — загадчыка кафедры методыкі і педагогікі пачатковай школы Маскоўскага дзяржаўнага завочнага педагагічнага інстытута. З 1981 г. працуе загадчыкам лабараторыі, галоўным навуковым супрацоўнікам Інстытута агульнай адукацыі Міністэрства адукацыі Расійскай Федэрацыі. З 1979 г. з'яўляецца галоўным рэдактарам навукова-тэарэтычнага і метадычнага часопіса "Начальная школа".

У. Гарэцкі — аўтар больш за 250 прац па праблемах пачатковага навучання, адзін з вядучых спецыялістаў у галіне яго методыкі. Ён унёс вялікі ўклад у распрацоўку фундаментальных праблем навучання грамаце і чытанню, удасканаленню сістэмы навучання ў пачатковай школе. Яго тэарэтычныя і прыкладныя працы ("Аб шляхах і спосабах павышэння якасці ўрокаў чытання", "Асноўныя метады і прыёмы чытання", "Крытэрыі ацэнкі ўрокаў чытання", "Нагляднасць на

ўроках чытання", "Крытычны аналіз стабільнага буквара і тэарэтычныя асновы новага буквара", "Буквары савецкага перыяду", "Азбукі Л. М. Талстога", "Асноўныя шляхі і формы самастойнай работы студэнтаў-завочнікаў", "Тэарэтычныя асновы і змест курса вучэбнага чытання ў пачатковай школе"), школьныя падручнікі ("Буквар", "Азбука", "Кніга для чытання", "Роднае слова" і інш.) занялі належнае месца ў распрацоўцы праграм сярэдніх і вышэйшых навучальных устаноў педагагічнага профілю, выкарыстоўваюцца ў дысертацыйных даследаваннях, пакладзены ў аснову канструявання школьных падручнікаў тыпу буквара і кнігі для чытання для пачатковых класаў школ Расійскай Федэрацыі, шэрагу яе аўтаномных тэрыторый, краін СНД. Некаторыя працы У. Гарэцкага перакладзены і выдадзены ў Балгарыі і Германіі.

Пры актыўным аўтарскім удзеле і пад кіраўніцтвам У. Гарэцкага у канцы 60-х гг. былі ўпершыню створаны метадычныя дапаможнікі новага комплекснага тыпу. Яны выйшлі некалькімі выданнямі агульным тыражом больш за 2 млн. экземпляраў і атрымалі шырокае прызнанне ў настаўнікаў і метадыстаў пачатковай школы. У. Гарэцкі як аўтар і кіраўнік вялікага аўтарскага калектыву прыняў актыўны ўдзел у стварэнні навучальных праграм, падручнікаў, усяго навучальна-метадычнага комплексу для новай 4-гадовай і абноўленай 3-гадовай пачатковай школы Расіі. У. Гарэцкі распрацаваў новую канцэпцыю далейшага развіцця і ўдасканалення методыкі навучання малодшых школьнікаў і стварэння адпаведных падручнікаў. Ім падрыхтаваны кнігі па курсу літаратурнага чытання ў пачатковай школе "Родная мова" (у 3 ч.).

У. Гарэцкі выдаў для рускіх школ у Беларусі новыя падручнікі "Рускае слова", у Эстоніі — "Новы рускі буквар", у Малдове — цыкл падручнікаў па чытанню. Ён праводзіць вялікую работу па падрыхтоўцы навуковых і педагагічных кадраў, чытае лекцыі па методыцы пачатковага навучання мове, праблемах букварыстыкі, удзельнічае ў многіх семінарах, канферэнцыях, на якіх выступае з навуковымі дакладамі.

У. Гарэцкі — член шэрагу вучоных саветаў, камісій, рэдсаветаў. Узнагароджаны двума ордэнамі "Знак пашаны", ордэнам "Дружбы народаў", медалём імя К. Ушынскага і інш. Удзельнічае ў працы беларускіх суполак Масквы.

***Радзім Гарэцкі**, акадэмік Нацыянадльнай акадэміі навук Беларусі*

## АД НАС АДЫШЛІ

У жніўні вучоныя Мінска праводзілі ў апошні шлях выдатнага беларускага мовазнаўцу ***Адама Супруна***. Ён нарадзіўся 24 кастрычніка 1928 г. у Палтаве. Аўтар шматлікіх прац пра ўзаемадзеянне беларускай мовы з іншымі мовамі. Праф. Супрун быў сябрам МАБ з дня яе заснавання, удзельнічаў у яе кангрэсах.

11 жніўня памёр польскі гісторык навукі ***Павел Чартарыскі***. Нарадзіўся ён 21 мая 1929 г. у сям'і, генетычна звязанай з Беларуссю. Аўтар многіх прац. Суаўтар шматтомнай "Гісторыі польскай навукі". Праф. Чартарыскі супрацоўнічаў з МАБ, удзельнічаў у канферэнцыях, якія праводзіліся ёю. З яго дапамогай Беларусь увайшла ў Таварыства школ аб'яднанага свету.

## МІЛАШ ЛЕАКАДЗІЯ

***Мілаш Леакадзія Баляславаўна*** *(11.11.1958, в. Соргаўцы раней Смаргонскага, цяпер Астравецкага р-на Гродзенскай вобл.), выкладчык беларускай мовы, публіцыст, даследчык, беларускі грамадскі дзеяч, выдатнік культуры Літвы.*

Л. Мілаш нарадзілася ў сялянскай сям'і. Друкавацца пачала ў школьныя гады ў газеце "Піянер Беларусі", там жа змяшчала свае малюнкі. Вучылася ў Ашмянскім тэхнікуме па спецыяльнасці бухгалтарскі ўлік. У 1987 г. закончыла філалагічны факультэт Вільнюскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута. Працавала старшым інжынерам. Супрацоўнічала з рэдакцыямі газет "Советская культура", "Книжное обозрение", "Учительская газета", "Літаратура і мастацтва", "Вечерние новости", "Эхо Литвы", часопісаў "Вильнюс", "Русский язык и литература". З 1990 г. працавала ў рускай школе, з 1994 г. — у Вільнюскай беларускай сярэдняй школе імя Ф. Скарыны.



Л. Мілаш прымае актыўны ўдзел у грамадска-культурным жыцці беларускай дыяспары ў Вільнюсе. Яе погляды сфарміраваліся пад уплывам беларускіх дзеячаў Янкі Багдановіча, Лявона Луцкевіча і інш. Уваходзіла ў склад "Саюдзіса". З'яўляецца намеснікам старшыні мясцовага Таварыства беларускай культуры, прэзідэнта Літоўскай асацыяцыі беларусістаў, членам рады Таварыства беларускай школы, рэдкалегіі газеты "Наша слова". Дзеля папулярызацыі ідэй адраджэння і захавання беларускай культуры ў Літве выступае ініцыятарам правядзення разнастайных мерапрыемстваў — выставак, канцэртаў, сустрэч з вядомымі беларускімі дзеячамі. Часта друкуецца ў газетах "Ніва" (Беласток), "Рунь" (Вільнюс), "Наша слова" (Ліда) і інш. Л. Мілаш была дэлегатам Другога з'езда беларусаў свету, Першага і Другога з'ездаў беларусаў краін Балтыі. Прымае ўдзел у беларусазнаўчых навуковых канферэнцыях. Жыве ў Вільнюсе.

***Ірына Тамільчык***

## АД НАС АДЫШЛІ

24 жніўня адышоў ад нас беларускі пісьменнік ***Аляксей Гардзіцкі*** (нарадзіўся 5 мая 1934 г. у Брэсце). Ён быў аўтарам кніг "Дыялогі", "Сустрэчы", "Гутаркі", "Вачыма сяброў", прысвечаных літаратурнаму ўзаемадзеянню Беларусі і іншых краін.

12 кастрычніка памёр прафесар ***Мікола Грынчык***. Нардзіўся ён 1 жніўня 1923 г. на Брэстчыне. Аўтар многіх літаратуразнаўчых прац.

## МІХАЛЮК ЯН

***Міхалюк Ян*** *(22.10.1922, в. Пузічы, цяпер Салігорскага р-на Мінскай вобл. – 31.03.1995, Лондан), беларускі грамадскі дзеяч, старшыня Згуртававання беларусаў у Вялікабрытаніі.*

Я. Міхалюк паходзіў з сялянскай сям'і. Закончыўшы ў 1938 г. польскую сямігадовую школу, паступіў у сельскагаспадарчую школу, дзе вучыўся да 1939 г., потым працаваў на бацькоўскай гаспадарцы. У час нямецкай акупацыі ўступіў у Саюз беларускай моладзі, таму ў 1944 г. пакінуў Беларусь і трапіў у Італію, дзе ў 1945–1946 гг. служыў у арміі генерала Андэрса. З Італіі ў 1946 г. перабраўся ў Англію. Дэмабілізаваўшыся, працаваў на тэкстыльнай фабрыцы ў г. Брэдфардзе. Стаў сябрам Згуртавання беларусаў у Вялікабрытаніі, Беларускіх камбатантаў (ветэранаў), належаў да Беларускай аўтакефальнай царквы. У 1966 г. разам з жонкай Аленай і трыма сынамі пераехаў на сталае жыхарства ў Лондан. Далучыўся да дабрачыннай дзейнасці ў Беларускай бібліятэцы і музеі імя Ф. Скарыны.



У 1974–1995 гг. Я. Міхалюк з'яўляўся старшынёй Згуртавання беларусаў у Вялікабрытаніі (пасля яго смерці гэтыя абавязкі выконвае яго жонка Алена), узначальваў Беларускі харытатыўны фонд (траст). Арганізоўваў розныя грамадскія і культурныя мерапрыемствы, сустракаўся з многімі віднымі дзеячамі Вялікабрытаніі, у тым ліку з Маргарэт Тэтчэр. Пахаваны на могілках св. Панкрата.

***Надзея Лісоўская*** *(Манчэстэр, Вялікабрытанія).*

## САГАЛ УЛАДЗІМІР

***Сагал Уладзімір*** *(1898, Віцебск – 1969, Цюрых), мастак.*

У. Сагал паходзіў з сям'і беларукіх габрэяў Сагаловічаў. У 1915 г. сям'я, ратуючыся ад пагромаў, пераехала ў Цюрых, дзе Уладзімір пачаў вывучаць медыцыну. Адчуўшы жаданне займацца мастацтвам, перабраўся ў Берлін (1923). У 1933 г. з-за пагрозы фашызму пераехаў у Францыю і ў 1939 г. уступіў у французскую армію. У 1940 г. (па іншых звестках — 1941-м) быў арыштаваны і адпраўлены ў перасыльны лагер Сан-Сюльпіс непадалёку ад Тулузы. У 1943 г. У. Сагал збег у Швейцарыю. У 1956 г. вярнуўся ў Цюрых.

У. Сагал працаваў мастаком у швейцарскіх газетах. Вядомы зробленыя ім партрэты Усышкіна, Бен-Гурыёна, Жабацінскага.

***Лявон Юрэвіч*** *(Нью-Йорк)*



# ХТО ЁСЦЬ ХТО Ў БЕЛАРУСІСТЫЦЫ



## ФРАНЦІШКА СОКАЛАВА

Вядомая чэшская даследчыца старaславянскіх (у тым ліку беларускіх) друкаў, выданняў Францыска Скарыны Францішка Сокалава нарадзілася ў 1937 г. у Празе ў сям'і філосафа Яна Патачкі, які быў вучнем Э. Гусерля, абаронцам правоў чалавека, спікерам "Хартыі–77". Пасля заканчэння 11 класаў сярэдняй школы будучая беларусістка паступіла на філалагічны факультэт Карлава універсітэта і закончыла яго са спецыяльнасцю руская, чэшская і іспанская мовы. Працавала рэдактарам у выдавецтве тэхнічнай літаратуры, час ад часу выкладала чэшскую мову. Выйшла замуж за рабочага (потым —матэматыка, дацэнта філасофіі Карлава універсітэта, у апошні час — міністра адукацыі), выхавала трох дзяцей.

З 1968 г. Ф. Сокалава пачала працаваць у Славянскай бібліятэцы, дзе з 20-х гг. існуе багаты беларускі аддзел (у ім ёсць выданні, якіх няма ў іншых кнігасховішчах). У сярэдзіне 70-х гг. сур'ёзна зацікавілася там беларускімі старадрукамі. А было гэта так. У бібліятэцы Добраўскага (графоў Носціцаў) у Празе трапіўся на вочы экземпляр Чацвёраевангелля, выдадзеннага ў Вільні Пятром Мсціслаўцам у 1575 г. На падставе гэтага быў напісаны артыкул, апублікаваны ў 1975 г. у "Зборніку" Нацыянальнага музея ў Празе. У той час Дзяржаўная бібліятэка СССР у Маскве шукала супрацоўнікаў для работы над Зводным каталогам старадрукаванай кнігі кірылаўскага і глагалічнага шрыфтоў. А паколькі Ф. Сокалава ўжо займалася такімі выданнямі, яна пачала шукаць і для гэтага каталога старадрукі, у тым ліку беларускія, што захаваліся ў чэшскіх кнігазборах. У 1997 г. Славянская бібліятэка сумесна з Нацыянальнай бібліятэкай Чэшскай Рэспублікі падрыхтавала каталог такіх кніг. Пра беларускія старадрукі Ф. Сокалава пісала таксама ў каталогу выстаўкі, арганізаванай Славянскай бібліятэкай у 1982 г. у гонар юбілею Івана Фёдарава ("Cyriliské tisky"). А ў верасні 1990 г. яна ўпершыню пабывала ў Беларусі — на 500-годдзі з часу нараджэння Ф. Скарыны, выступіла са змястоўным дакладам на юбілейнай акадэмічнай сесіі, пабывала на радзіме нашага першадрукара. У наступным годзе зноў прыехала ў Мінск — на ўстаноўчы кангрэс Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў, стала яе сябрам. Пасля вяртання ў Прагу рашыла падрыхтаваць зборнік на тэму выступлення на кангрэсе — "Ф. Скарына ў навуковых працах чэшскіх славістаў". Такі зборнік быў выдадзены Нацыянальнай бібліятэкай (Прага, 1992). Туды ўвайшлі важнейшыя даследаванні, апублікаваныя ў чэшскім друку, у тым ліку вельмі рэдкая праца рускага гісторыка-эмігранта А. Флароўскага. У зборнік таксама ўключаны два артыкулы пра Скарыну самой складальніцы, яе пераклады некаторых скарынаўскіх тэкстаў. А ў 1997 г., калі адзначалася 480-годдзе скарынаўскага кнігадруку ў Празе, калі быў там закладзены помнік вялікаму палачаніну, Ф. Сокалава арганізавала прысвечаную яму Міжнародную навуковую канферэнцыю, матэрыялы якой выйшлі асобным выданнем. Яе артыкулы, прысвечаныя Скарыне, змешчаны ў зборніках "Беларусіка-1", "Беларусіка-9".

У Ф. Сокалавай, вядома ж, ёсць і іншыя славістычныя зацікаўленні. Яна, да прыкладу, пераклала кнігу выбраных тэкстаў украінскага філосафа Г. Скавара-

ды. У 1997 г. выйшаў з друку яе пераклад “Трох размоў” У. Салаўёва. Арганізавала выстаўкі, прысвечаныя спадчыне Яна Патачкі, у Сафіі і Парыжы.

Францішка Сокалава — жаданы ўдзельнік усіх імпрэзаў, якія ладзяцца ў Празе чэшскімі беларусістамі і беларускім зямляцтвам.

***Адам Мальдзіс***

## IN MEMORIAM

### ВЯЧАСЛАЎ ВЯРЭНІЧ



27 жніўня 1999 г. памёр вядомы беларускі лінгвіст, кандыдат філалагічных навук, былы супрацоўнік Інстытута мовазнаўства НАН Беларусі, замежны член-карэспандэнт Польскай акадэміі навук (умельства) у Кракаве Вячаслаў Вярэніч.

Вячаслаў Вярэніч нарадзіўся 12 сакавіка 1924 г. у вёсцы Рухча Столінскага пав. Брэсцкага ваяводства ў сялянскай сям’і. Застаўшыся ў 1931 г. без бацькі, Вячаслаў з малых гадоў спазнаў усю прывабнасць і цяжкасці працы на зямлі, выкаваў у сабе цягавіты сялянскі характар. Пасля заканчэння шасцімесячных настаўніцкіх курсаў у Слоніме ў верасні 1940 г. пачаў педагагічную працу настаўнікам пачатковай школы на хутары Магільна. У час акупацыі няпраціглы час вучыў дзяцей у Ворсынскай пачатковай школе на Століншчыне, а затым займаўся сельскай гаспадаркай. У 1944–1956 гг., працуючы настаўнікам, дырэктарам школы, інспектарам і загадчыкам Столінскага райана, адначасова закончыў Пінскае педагагічнае вучылішча, Пінскі настаўніцкі інстытут і Мінскі педагагічны інстытут. За добрую арганізацыю адукацыі ў Столінскім раёне Міністэрствам асветы БССР быў узнагароджаны знакам “Выдатнік народнай асветы”.

У канцы 1957 г. В. Вярэніч стаў аспірантам Інстытута мовазнаўства АН Беларусі і адразу быў накіраваны ў Інстытут славяназнаўства АН СССР у Маскву для атрымання спецыялізацыі па параўнальнаму славянскаму мовазнаўству.

Пасля заканчэння аспірантуры ў снежні 1961 г. В. Вярэніч вярнуўся ў Мінск. У 1962 г. ён выступіў з дакладамі на першых для яго навуковых канферэнцыях у Вільнюсе і Ужгарадзе, зімой 1963–1964 гг. правёў свае першыя дыялекталагічныя экспедыцыі на Лунінеччыну і ў Ніжнюю Сілезію, у 1964 г. апублікаваў свой першы артыкул. Так пачынаўся шлях Вярэніча-мовазнаўца.

Галоўныя навуковыя інтарэсы Вячаслава Вярэніча былі звязаны з вывучэннем гаворак польскіх перасяленцаў на тэрыторыі былога СССР і рэпатрыянтаў у Польшчы. У 60–90-я гг. у беларускім, польскім, расійскім і літоўскім друку ён апублікаваў каля пяцідзесяці прац, у якіх даследаваў асаблівасці моўных кантактаў у гаворках польскіх перасяленцаў на тэрыторыі Лунінецкага і Лепельскага раёнаў Беларусі, на Віленшчыне, у Латвіі, у Хмяльніцкай вобласці на Украіне, у Ніжняй Сілезіі ў Польшчы. У 1975 г. В. Вярэніч абараніў кандыдацкую дысертацыю, у якой падрабязна разгледзеў гістарычна-сацыялагічныя характарыстыкі мазурскіх (паводле паходжання) польскіх гаворак вёсак Замошша на Лунінеччыне і Петравічкі ў Ніжняй Сілезіі, даследаваў змены ў лексіцы гэтых гаворак і даў фанетычна-марфалагічнае апісанне гаворкі вёскі Замошша. Ужо ў першых працах В. Вярэніча назіраўся арыгінальны падыход да даследаванага матэрыяла, пільная ўвага да моўнага факта, адчувалася пульсаванне дапытлівай думкі даследчыка. Працы вучонага 60–70-х гг. адкрывалі новыя далягляды ў вывучэнні сацыяльнага боку мовы і сталі важкай цаглінай у падмурку новай мовазнаўчай дысцыпліны, якая яшчэ толькі пачынала складвацца ў Беларусі і Савецкім Саюзе, — сацыяльнай лінгвістыкі.

Апантанасць абранай тэматыкай, арганізатарскі талент і душэўная шчодрасць В. Вярэніча сталіся прычынай таго, што яшчэ да абароны дысертацыі ён пачаў гуртаваць вакол сябе аднадумцаў. У 1966 г. В. Вярэніч ініцыіраваў стварэнне групы навукоўцаў з Беларусі, Літвы, Латвіі, Расіі, Украіны, Узбекістана, якая займалася вывучэннем польскіх гаворак на тэрыторыі Савецкага Саюза. Вынікам першага этапа намаганняў гэтай групы стала двухтомнае даследаванне “Польскія гаворкі ў СССР” (Мн., 1973), для якога В. Вярэніч падрыхтаваў запісы дыялектных тэкстаў з розных рэгіёнаў Беларусі і Літвы і раздзелы канцэптуальнага плана, прысвечаныя характарыстыцы польскіх перыферыйных гаворак на ўсходзе ў цэлым, ацэнцы стану і перспектыў даследавання “пальшчызны крэсовай”, гістарычна-сацыялагічнай характарыстыцы гаворак польскіх перасяленцаў на Палессі.

Па сваёй натуры В. Вярэніч быў памяркоўным і разважлівым чалавекам. Кожны, хто сустракаўся з ім, меў магчымасць ацаніць багацце і далікатнасць душы гэтага чалавека, які паўсюль і заўсёды выпраменьваў цяпло і дабрыню, уважлівасць і спагаду. За выключэннем фіналу педагагічнай кар’еры, калі малады і аўтарытэтны кіраўнік раённай адукацыі быў вымушаны пакінуць сваю пасаду, В. Вярэніч, бадай, не меў асаблівых канфліктаў з уладамі. Аднак з сярэдзіны 70-х гг. сітуацыя стала мяняцца. Падрыхтаванай на аснове дысертацыі і здадзенай у 1976 г. у мінскае выдавецтва “Навука і тэхніка” манаграфіі так і не наканавана было пабачыць свет у Беларусі. Таксама не мела працягу на беларускай глебе публікацыя трэцяга і чацвёртага тамоў калектыўнага даследавання “Польскія гаворкі ў СССР”, у якіх асэнсоўваліся матэрыялы экспедыцый 1972–1977 гг. (Дысертацыя — у скарочаным выглядзе, — таксама, як і матэрыялы палявых назіранняў, былі апублікаваны адпаведна ў 1990 і 1982–1983 гг. у Польшчы ў рамках падрыхтаванай пад рэдакцыяй В. Вярэніча і Я. Рыгера

шматтомнай серыі “Studia nad polszczyzną kresową”.) З сярэдзіны 70-х гг. працы, прысвечаныя даследаванню польскіх перыферыйных гаворак, у Беларусі стала друкаваць немагчыма, — верагодна, у гэты час лічылася непажаданым у якой-небудзь форме прыцягваць увагу да лёсаў савецкіх палякаў. Тым не менш, у сярэдзіне 80-х гг. кіраўніцтва Інстытута мовазнаўства вымагала ад вучонага актывізацыі ў публікацыі навуковых прац. В. Вярэніч пакутліва перажываў такую крывадушнасць, адсоўванне на навуковую перыферыю галоўнай справы яго жыцця, расцярушванне арганізаванага ім даследчага калектыва.

Сярод іншых сталых навуковых зацікаўленняў В. Вярэніча варта назваць анамастыку, беларускую дыялекталогію, этымалогію, гісторыю польскай беларусістыкі і праблематыку, звязаную з Палессем. Ён даследаваў мікратапонімы Віленшчыны і тапанімічныя назвы, зафіксаваныя ў трылогіі Якуба Коласа “На ростанях”, імёны і прозвішчы савецкіх палякаў, а таксама прозвішчы жыхароў Столінскага раёна. Пяру В. Вярэніча належаць кароткія нарысы, прысвечаныя польскім лінгвістам-беларусістам Л. Асоўскаму, А. Абрэмбскай-Яблонскай, М. Аляхновічу, А. Брукнеру, М. Кандрацюку, Э. Кліху, У. Курашкевічу, С.-Б. Ліндэ, Г. Турскай. Сам вучоны не падзяляў свае працы на “асноўныя” і “неасноўныя” і ва ўсіх выпадках выяўляў стараннасць і кампетэнтнасць, арыгінальнасць і ўмельства. Ён не замыкаўся ў чыста лінгвістычнай праблематыцы, любіў і ўмеў паразважаць на самыя розныя грамадскія тэмы, заўсёды дэманструючы пры гэтым добрае веданне прадмета і арыгінальнасць меркаванняў. Вясной 1990 г. ён удзельнічаў у праведзенай у Рыме Польскім інстытутам хрысціянскай культуры канферэнцыі “Асновы гістарычных і культурных традыцый ва Усходняй і Цэнтральнай Еўропе: Беларусь, Літва, Польшча, Украіна”, дзе выступіў з дакладам “Гістарычныя і культурныя асновы нацыянальнай свядомасці палякаў у Савецкім Саюзе (на прыкладзе Беларусі)”.

Пасля звальнення з працы і выхаду на пенсію В. Вярэніч аддаваў сябе сям’і, навуцы, грамадскай дзейнасці і працы на зямлі. У гэты час ён супрацоўнічаў з Міжнароднай асацыяцыяй беларусістаў, кафедрай беларускай культуры Беластоцкага універсітэта, Лунінецкім ліцэем, “Еўрафорумам”, Польскім інстытутам у Мінску, Саюзам палякаў Беларусі і іншымі польскімі і паланістычнымі ўстановамі і арганізацыямі. Яго ўсюды добра ведалі і любілі, паўсюль патрабаваліся яго веды і дасведчанасць. За вялікі ўклад у развіццё беларуска-польскіх узаемадачыненняў у 1992 г. В. Вярэніч быў узнагароджаны ордэнам Заслугі Рэспублікі Польшча.

Вячаслаў Вярэніч вылучаўся глыбокай унутранай культурай, шчырай зацікаўленасцю ў навуковых дасягненнях і жыццёвых поспехах калегаў. Ён нязменна ўвасабляў сабой эталон абыходлівасці і чуласці, прыстойнасці і жыццёвай мудрасці. Такім ён назаўсёды застанецца ў памяці ўсіх тых, хто яго ведаў.

***Сяргей Запрудскі**, кандыдат філалагічных навук*

# АНТОНІ РАДЗІВІЛ

Князь Антоні Радзівіл, тытулярны нясвіжска-прыгодзіцкі ардынат, ганаровы прэзідэнт Міжнароднага фонду “Нясвіж”, нарадзіўся ў Нагловіцах (Польшча) 17 студзеня 1935 г. Пасля таго, як сям’я згубіла маёмасць, перабраўся ў Вялікабрытанію, дзе атрымаў грунтоўную тэхнічную адукацыю. Зрабіў добрую кар’еру ў славутай нафтавай кампаніі “Шэл”.

Двойчы Антоні Радзівіл пабываў у Нясвіжы, удзельнічаў там у навуковай канферэнцыі, выказаў жаданне дапамагаць нясвіжанам у стварэнні турыстычнай інфраструктуры, аднаўленні помнікаў архітэктуры. Быў жанаты з Ружай з Чартарыскіх, сястрой беларусіста праф. Паўла Чартарыскага, з якой меў двух сыноў. Карыстаўся павагай як высакародны і інтэлігентны чалавек. Памёр 25 лютага 1999 г., пакінуўшы пасля сябе добрую памяць. Перад смерцю выказаў жаданне быць пахаваным у крыпце фарнага касцёла ў Нясвіжы.

***Анджэй Цеханавецкі** (Лондан), ганаровы доктар Беларускага дзяржаўнага універсітэта*

## ХРОНІКА БЕЛАРУСАЗНАЎЧАГА ЖЫЦЦЯ

### “УНІВЕРСІТЭТЫ ЕЛЬСКІХ”

Так называлася Міжнародная навуковая канферэнцыя, якая адбылася 7 кастрычніка ў Беларускім універсітэце культуры. На яе прыехалі нашчадкі разгалінаванага і заслужанага для Беларусі шляхецкага роду: вучоныя Эвеліна і Анджэй Ельскія, Станіслаў Матушэвіч з Польшчы, археолаг Георг Ельскі з Францыі, прафесар медыцыны Віктар Ельскі (а з ім маленькі ўнук) з Украіны. Нельга было без хвалявання слухаць іх выступленні. Якія гераічныя і трагічныя асобы выйшлі з роду Ельскіх! Гены пісьменніка, вучонага-энцыклапедыста, стваральніка беларускага музея ў в. Замосце Аляксандра (сёлета споўнілася 165 год з дня яго нараджэння), кампазітара і скрыпача Міхала, падарожніка-біёлага Канстанціна, скульптара Казіміра, грамадскага дзеяча Францішка знайшлі годны працяг.

А самой канферэнцыі, у традыцыйным сэнсе, і не было. Тэксты асноўных дакладаў выйшлі асобнай кніжкай. І вучоныя пераважна экспромтам разважалі, што для іх значаць “універсітэты Ельскіх”, чаму менавіта з дробнай шляхты выходзілі прадстаўнікі беларускай інтэлігенцыі XIX ст., што трэба зрабіць для ўвекавечання іх памяці, “сцаленне” збораў Аляксандра Ельскага. Канструктыўна прагучалі выступленні прафесара-батаніка Анатоля Федарука, гісторыкаў Андрэя Кіштымава і Віталя Скалабана, пісьменнікаў Алеся Карлюкевіча, Уладзіміра Мархеля, Кастуся Цвіркі, мастака Уладзіміра Рынкевіча, журналісткі Ірыны Марачкінай. Віталі ўдзельнікаў рэктар універсітэта Ядвіга Грыгаровіч, намеснік міністра культуры Валерый Гедройц і першы сакратар Пасольства Польшчы ў Беларусі Пётр Гарнцарак. Душой жа канферэнцыі была яе вядучая Ларыса Доўнар.

Закочылася свята ў Дудзічах-Дудутках, родавай сядзібе Ельскіх, у многім адноўленай дзякуючы стараннем пісьменніка-падзвіжніка Яўгена Будзінаса. Нарэшце адноўлены таксама могілкі Кобан, дзе пахаваны Ельскія, у тым ліку Аляксандр. Многа старанняў уклалі ў гэтую справу біёлаг і аўтар прац пра старажытныя сядзібы Беларусі Анатоль Федарук, гісторык А. Трусаў і іх студэнты.



## НОВЫ ЗАПАВЕТ
## ПЕРАКЛАД а. УЛАДЗІСЛАВА ЧАРНЯЎСКАГА. Мн., 1999. 464 с.




У сакавіку 1999 г., якраз на Вялікдзень, атрымаў я сімвалічны падарунак — цудоўнае выданне Новага Запавету ў аўтарскім перакладзе на беларускую мову вядомага дзеяча беларускага нацыянальна-адраджэнскага руху ксяндза Уладзіслава Чарняўскага. З надпісу на кнізе даведаўся, што выданне здзейснена пры ўдзеле Царквы на асабістыя сродкі шчырага патрыёта нашай Радзімы К. Леанідовіча. Выданне ўвянчала самаахвярную касцельна-асветніцкую дзейнасць на матчынай беларускай мове айца Уладзіслава Чарняўскага, пробашча касцёла ў Вішневе Валожынскага раёна. Добрая Вестка нашага Выратавальніка заўсёды чытаецца з духоўным натхненнем. Але ёсць тут і нашыя зямныя, навуковы і літаратурны, інтарэсы — для філолагаў і тэарэтыкаў Божага Слова на роднай мове. Такое пачуццё адкрыцця слова заўсёды адчуваеш, калі ўчытваешся ў біблейскія кнігі, выдадзеныя “павяленнем, выкладам і працаю Францыска, Скарыніна сына з слаўнага места Полацка”.

Грунтоўныя рэцэнзіі на гэтае выданне тэарэтыкаў перакладу, верагодна, яшчэ наперадзе. Тут жа падзялюся з нашымі чытачамі першым уражаннем ад перакладу і адзначу яго папярэднікаў.

Першым, безумоўна, быў Ф. Скарына: ён пераклаў на старабеларускую мову і выдаў у Празе (1517–1519) 23 ілюстраваныя старазапаветныя кнігі Бібліі, а пазней у Вільні апублікаваў зборнік новазапаветных кніг “Апостал”, другое выданне Псалтыра, урэшце, “Малую падарожную кніжку”. Каля 1580 г. яго паслядоўнік Васіль Цяпінскі выдаў у перакладзе на родную мову Евангелле (паводле Матфея, Марка і, незакончанае, паводле Лукі) з прадмовай, у якой ён выступіў супраць дэнацыяналізацыі беларусаў, за дзяржаўны статус роднай мовы. Паслядоўнікамі Ф. Скарыны былі беларускія, расійскія і ўкраінскія першадрукары Пётр Мсціславец, Іван Фёдараў. У XVII–XIX стст. у Беларусі выдаваліся біблейскія кнігі пераважна на стараславянскай мове.

Нашых чытачоў, якія цікавяцца гэтай тэмай, адсылаю да свайго артыкула “Біблія”, апублікаванага ў “Энцыклапедыі гісторыі Беларусі” (Мн., 1994. Т. 2.). Тут жа спашлюся толькі на аўтарскія пераклады біблейскіх кніг на сучасную беларускую мову. Першымі былі славуты нашаніўскі і заходнебеларускі адраджэнец Антон Луцкевіч і баптысцкі прапаведнік Л. Дзекуць-Малей (дарэчы, беларусістка Л. Глагоўска зусім нядаўна знайшла ў Гданьску яго магілу): іх пераклады евангельскіх кніг леглі ў аснову шматлікіх замежных выданняў Новага Запавету (Гельсінгфорс, Лондан, Таронта, 1931–1991). У 1930 г. ксёндз В. Гадлеўскі пераклаў Новы Запавет і выдаў яго лацінкай пад назвай “Чатыры Евангельлі і Апостальскія дзеі” (Вільня, 1939). У пачатку 1950-х гг. ксёндз П. Татарыновіч выдаў па-беларуску лацінкай “Сьвятое Евангельле і Апостальскія дзеі” (Рым, 1954) са сваімі каментарыямі, пазней — “Лісты сьвятых апосталаў” (Рым, 1974). Беларускі філолаг і гісторык Янка Станкевіч у 1950–1960-я гг. пераклаў на беларускую мову Біблію: Новы Запавет выйшаў у Нью-Йорку (у 1970 г.), а поўны арыгінальны пераклад пад назвай “Сьвятая Біблія” — у 1973 г. У перакладзе першаіерарха Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы архіепіскапа Мікалая выдадзена “Напрыстольнае сьвятое Евангельле” (Таронта, 1988). Асобныя старазапаветныя кнігі перакладаў і выдаваў за мяжой пастар Ян Пятроўскі (1984–1987). Часопіс “Беларус” апублікаваў пераклады новазапаветных кніг Дзекуця-Малея і Луцкевіча (1990, № 1–2) і “Песню песняў” у перакладзе Васіля Сёмухі (1991, № 8–9). У 1990–1991 гг. часопіс “Спадчына” апублікаваў Евангеллі паводле Матфея, Лукі і Яна ў перакладзе Анатоля Клышкі. Беларуская Біблейская камісія пад старшынствам мітрапаліта Філарэта ўхваліла да друку перакладзенае на беларускую мову В. Сёмухам Евангелле паводле Матфея ў складзе грэка-славяна-руска-беларускай тэтраглоты (1990). Выдавецтва “Беларуская энцыклапедыя” ўпершыню ажыццявіла факсімільнае перавыданне Бібліі, выдадзенай Ф. Скарынай. Урэшце, Выдавецкі цэнтр “Бацькаўшчына” апублікаваў Новы запавет з Псалтыром у перакладзе В. Сёмухі (1995).

Вось такая, амаль 500-гадовая, беларуская біблейская традыцыя, бліскуча завершаная ў канцы XX ст. айцом Уладзіславам і дабрадзеямі Беларускай Царквы. Выдатна адчуваючы беларускую мову, У. Чарняўскі максімальна наблізіў да яе евангельскія тэксты, пачынаючы ад радаводу Хрыста ў Евангеллі паводле Матэвуша (евангельскія імёны пададзены ў каталіцкай традыцыі: Езус, Матэвуш, Лукаш): “Абрагам *спарадзіў* Ісака” і г. д. — а ён увёў аўтэнтычна беларускае: “Абрагам *быў бацькам* Ізаака” і г. д. Цікавая яшчэ адна з шматлікіх знаходак: слова *жонка* перакладчык замяніў вельмі беларускім і хрысціянскім па сэнсу *“сужонка”*. Паводле Скарынавай традыцыі перакладчык даў кароткія загалоўкі да кожнага евангельскага і апостальскага сюжэтаў: “Нараджэнне Хрыста”, “Пакланенне магаў з Усходу”, “Будзьце як дзеці”, “Знак з Неба”, “Прыповесць аб добрым і благім дрэве”, “Новае неба і новая зямля” і г. д.

Выданне Новага Запавету ў перакладзе айца Уладзіслава Чарняўскага — бясспрэчны ўклад у беларускую біблеістыку і беларускую філалогію. Дай Бог яму і ягоным дабрадзеям спору і далейшай ахвярнай працы.

***Уладзімір Конан**, доктар філасофскіх навук*

## АЛЕСЬ АЛЕХНІК. ПАД БЕЛ-ЧЫРВОНА-БЕЛЫМ (MEMENTO PATRIAM). ВІЛЬНЯ: “РУНЬ”, 1999. 223 с.

Памятаецца, хтосьці пісаў, што інтэлектуальны, творчы патэнцыял народа вымяраецца, сярод іншага, і колькасцю мемуараў, напісаных прадстаўнікамі гэтага народа. Бо ў іх фіксуецца, застаецца жыць гісторыя нацыі, краіны, увасобленая ў непаўторных чалавечых лёсах. Толькі што выдадзеныя ў Вільні ўспаміны Алеся Алехніка, беларускага дзеяча з Аўстраліі, сябра Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў, красамоўна пацвярджаюць гэтую бясспрэчную ісціну: без іх гісторыя нашай эміграцыі, нашай прысутнасці ў свеце, нашага ўдзелу ў сусветным цывілізацыйным працэсе была б намнога бядней.




У кнізе А. Алехніка, дбайна выдадзенай віленскай “Рунню”, выразна бачны два вымярэнні: індывідуальнае і нацыянальнае. Першае — гэта жыццяпіс беларуса-палешука, які нарадзіўся 31 ліпеня 1929 г. ва ўрочышчы Перунова каля Лахвы (цяпер Лунінецкі раён) у сям’і працавітых і таму досыць заможных сялян Феадосіі і Апанаса. Іх гаспадарлівасць з прыходам у 1939 г. бальшавікоў стала прычынай многіх непаразуменняў і ледзь не прывяла да вывазу ў Сібір, што, зрэшты, не перашкодзіла Алехнікам, нягледзячы на смяротную пагрозу, ратаваць чырвонаармейцаў з прыходам немцаў. На нейкі час жыхары Перунова і наваколля згубілі пэўныя арыенціры. “Нашыя палешукі-беларусы, — піша А. Алехнік — былі тагды ў вельмі цяжкім становішчы: не любілі камуністаў, не хацелі палякаў, але не мелі таксама й нічога свайго беларускага. І магчыма таму нашыя людзі, а найбольш за ўсіх я, вельмі цешыліся найменьшымі праявамі ці весткамі аб дзейнасці беларускіх арганізацыяў, выдаваньні беларускіх газэтаў і г. д.” (с. 25). Аўтар рана зразумеў, што найперш трэба спадзявацца на ўласныя сілы. У першай і адзінай спрэчцы з маці ён скажа: “Бог даў нам здольнасьць думаць і абараняць самых сябе й мы мусім самі ратаваць сябе ад гібелі”( с. 30).

Боязь бальшавіцкіх рэпрэсій паўплывала на рашэнне сям’і Алехнікаў падацца ў 1944 г. на фурманцы на захад. Немцы, зразумела, выкарысталі іх як ледзь не дармовую сілу ў лагеры Ізармос пад Мюнхенам. Работа на ваенным заводзе са спробамі шкодніцтва ледзь не скончылася расстрэлам. Лягчэй стала з прыходам амерыканцаў. Алесь паступіў адразу і на аўтамеханічныя, і на каморніцкія курсы ў Мюнхене. Сям’я ж перабралася ў лагер у Міхэльсдорфе, дзе ўжо дзейнічала беларуская школа і гімназія, ставіліся беларускія спектаклі. Здольны юнак услед за нямецкай хутка вывучыў англійскую мову, і ў 1950 г. сям’я рашыла на

стала перабрацца ў Аўстралію. Прабыўшы ў Сіднеі ўсяго некалькі дзён, А. Алехнік паехаў працаваць на будоўлю буйной гідраэлектрычнай станцыі ў Снежных гарах. Аўстралія з яе неабжытымі прасторамі падабалася Алехнікам, стала для іх другой радзімай. Але першая не забывалася ніколі: "Memento Patriam" (памятай пра Айчыну).

А побач з вонкавым, падзейным вымярэннем у кнізе існуе ўнутранае, духоўнае. Чытач з цікавасцю сочыць, як фарміруецца нацыянальная свядомасць аўтара. Ужо ў чатыры гады ён задаў дзеду пытанне: "Хто мы?" І дзед, што сядзеў "на запічку", адказаў: "Па нацыянальнасці мы — беларусы, а па рэлігіі — праваслаўныя". Бацька і дзядзька, якія прысутнічалі пры гэтым, "у знак пацьвярджэння кіўнулі мне галавой". Потым былі яшчэ размовы і сустрэчы, якія паўплывалі на менталітэт будучага грамадскага дзеяча. Пасля ўсталявання савецкай улады, едучы з маці цягнікам у Пінск, хлопец стаў міжвольным сведкам спрэчкі "жанчыны з Гомеля" і "расейца з Варонежу". Чыстейшая беларуская мова настаўніцы, відаць, здалася яе напышліваму спадарожніку абразлівай, "странной". У адказ ён пачуў: "Вы, таварыш, едзеце па беларускай чыгунцы, на тэрыторыі Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі, едзеце займаць высокае становішча [у Брэсце. — *А. М.*], дык чаго Вы да нас прыехалі, як Вы нас не любіце?" (с. 18). І другая "нетыповая" размова, што адбылася ўжо ў Мюнхене. Алехнік апынуўся ў адным пакоі з палякамі і, зразумела, горача адстойваў сваю беларускасць. У адказ адзін з іх узяў голас: "Беларусі нігды не было і Беларусь можэ тылько быць в рамках польскего паньства". І тут нечакана загаварыў звычайна маўклівы польскі палкоўнік: "Глупство гадаш, прошэ пана! Бялорусь была велькім неподлеглым паньствэм, прошэ пана, ці пан чытал гісторые Грунвальдскей бітвы? Чы пан там чытал о войску літэвскім? Хцэ пану поведзець, же літэвске войско под Грунвальдэм было бялорускім войскем, бо Бялорусь втэды мяла назув Вельке ксенство Літэвске!" (с. 53).

У час такіх, вонкава выпадковых, размоў і сустрэч фарміравалася свядомасць А. Алехніка, яго перакананне, што ў свеце проста вельмі мала або нічога не ведаюць пра яго народ, а таму перад ім "стаіць вялікае й важнае заданьне ўсьведаміць сьвет пра Беларусь". І, толькі ступіўшы на аўстралійскую зямлю, ён пачаў пераконваць ледзь не кожнага субяседніка, што ён прадстаўляе тут адметную краіну з самабытнай і даўняй гісторыяй, што ніякі ён не "ўайт-раша", не белагвардзеец з Кітая. Балюча ўспрымаў раскол беларускай эміграцыі на бэнэраўцаў і бэцээраўцаў, супрацьпастаўленне беларускасці і "крывіцкасці". Кінуў высокааплатную працу ў Снежных гарах дзеля стварэння Беларускага аб'яднання Астраліі. Самаахвярна згуртоўваў суайчыннікаў, спрабаваў выдаваць часопіс "Новае жыццё", арганізоўваў вечарыны (ставіліся "Паўлінка", "На папасе", "Модны шляхцюк", "Пінская шляхта", наладжваў кантакты з уладамі, іншымі зямляцтвамі. У выніку пра беларусаў сталі ведаць, з імі пачалі лічыцца.

Ды хутка аўстралійскія межы падаліся цеснымі. Усталёўваюцца сувязі з міжнароднымі арганізацыямі — Антыкамуністычнай лігай народаў Азіі, якая неўзабаве ўвайшла ў аналагічную Сусветную лігу, хрысціянскімі аб'яднаннямі.

Нягледзячы на пагрозы, А. Алехнік удзельнічаў (часта на грошы сваіх бацькоў) у міжнародных канферэнцыях на Філіпінах, у Паўднёвай Карэі, В'етнаме, Японіі, потым зноў на Філіпінах. І ўсюды расказваў пра Беларусь, распаўсюджваў напісаныя ім самім брашуры, рыхтаваў праекты дакументаў. Усюды знаходзіў аднадумцаў, якія потым сталі сябрамі незалежнай Беларусі. На пачатку 90-х гг. А. Алехнік скіраваў лісты ўрадам розных краін з прапановай хутчэй прызнаць наш суверэнітэт. Узнагародай за гэта было прызнанне на радзіме. Пётр Краўчанка, тагачасны міністр замежных спраў Беларусі, пісаў аўтару: "Бацькаўшчына будзе Вам заўжды ўдзячная за тое, што Вы зрабілі для яе, апынуўшыся за яе межамі!" (с. 190).

Кніга А. Алехніка мае як дакументальныя, так і мастацкія вартасці. Некаторыя раздзелы ("Жыццё на хутары", "Напад ваўка") успрымаюцца як навелы ці абразкі, аднак найперш кніга — дакумент эпохі. Аўтар імкнецца быць дакладным нават у дробязях (указаны рэйсы авіяліній, нумары ў пакоях гатэляў і г. д.). Успаміны багата ілюстраваны. Да іх прыкладзены 27 копій найбольш важных дакументаў. Часта цытуюцца лісты, атрыманыя аўтарам з розных краін. Дарэчы, гэтая перапіска робіць архіў А. Алехніка асабліва каштоўным (дадамо, што пачалося ліставанне аб перадачы архіва ў Цэнтр імя Ф. Скарыны — па прыкладу доктара Раісы Жук-Грышкевіч з Канады).

Прызнаюся, не ўсё ў кнізе здалося мне бясспрэчным. Часам аўтару шкодзіць залішняя катэгарычнасць. Напрыклад, у асуджэнні "фальш-прадстаўнікоў" місіі БССР пры ААН (с. 64), бо быў жа сярод іх і Генадзь Бураўкін, які многа зрабіў для Беларусі. Або ў аднабаковай ацэнцы міністра Васіля Стражава. Але гэта — прыватныя моманты. Галоўнае ж у тым, што, як гаворыцца ў прадмове, А. Алехнік вярнуўся на Бацькаўшчыну "з дапамогай гэтай сваёй кнігі".

Да сказанага трэба дадаць, што прадмову да кнігі напісаў Сяргей Вітушка, а пасляслоўе — яе рэдактар Алег Мінкін. Абодва яны высока ацэньваюць змест успамінаў. С. Вітушка спадзяецца, што яны запачаткуюць цэлую выдавецкую серыю "Руні", што "хтосьці іншы, магчыма, напіша пра Канаду, Амерыку, Аргенціну, Казахстан, Расею". Дай тое, Божа!

***Адам Мальдзіс**, доктар філалагічных навук*

## MARCELI KOSMAN. OGNIEM I MIECZEM: PRAWDA I LEGENDA. POZNAŃ, 1999. 214 s.

На пачатку бягучага года ў Польшчы адбылася прэм'ера фільма "Агнём і мячом" паводле аднайменнага рамана славутага польскага раманіста і навеліста, Нобелеўскага лаўрэата Генрыка Сянкевіча (1846–1916), які неаднаразова бываў на Беларусі і пісаў пра яе.

Раман "Агнём і мячом" (1883–1884) разам з "Патопам" (1884–1886) і "Панам Валадыёўскім" (1887–1888) склалі знакамітую трылогію, прысвечаную гісторыі

